ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

30 снежня 1994 г. № 52 (3772) Кошт 75 руб.

## "БУДЗЬ САМ САБОЮ, БЕЛАРУС..."

***Не шкодзіць часамі азірнуцца назад, прыслухацца да голасу і перасцярог нашых продкаў, якія, звяртаючыся да сваіх сучаснікаў, і нас вучылі, як жыць. Сённяшні трывожны час у многім нагадвае далёкі пераломны перыяд грамадзянскае вайны: і пакуты народа з такім нястрымным пагаршэннем эканамічнае сітуацыі, і непрадбачлівая будучыня, і супрацьстаянне розных ідэйных і палітычных канцэпцый развіцця, і вытокі антыбеларускай кампаніі. Вядома, сённяшняя сітуацыя непараўнальна больш спрыяльная. Але трагедыя беларускага народа ў тым, што ўся ўлада на нашай зямлі аказалася ў руках людзей, якія на працягу апошніх гадоў павялі нас да эканамічнае і палітычнае катастрофы. Развал эканомікі, дэградацыя культуры і навукі набывае ўсё больш шпаркі тэмп. А народ наш, не прывычаены да дэмакратыі, разгубіўся і не дае рады адрозніць найпрымітыўнейшую дэмагогію ад сапраўднае палітыкі. Пачытаем верш, якім Зміток Бядуля сустракаў 1918 год. Пабачыў ён свет 7 студзеня 1918 года ў газеце "Вольная Беларусь". Шмат чаго знойдзем у ім сугучнага з нашымі падзеямі, клопатамі і трывогамі.***

### НОВЫ ГОД

Ударыў звон. Лягла мяжа. Нябыццем стаў мінулы год.
І летапісец вызначаў яго крывёю і агнём.
Меў шмат надзей, меў гора шмат ты ад яго і наш Народ.
Над Беларуссю ён прайшоў грымотай, бураю, віхром.

А варта нам зірнуць назад на дзіўны сон, вясновы сон,
Што кожнаму свой сказ шаптаў:
"Да нас з'явілась Воля-Мацъ"!
І хутка-хутка пранеслась, як птушак спеў, як гусляў звон...
І хутка-хутка пранеслась. Мы не маглі яе стрымаць...

У чым наш грэх? Абмылка дзе? Чаму апутала нас сець?
Бо, быўшых доўга ў цемнаце, нас асляпіла сонца бель.
Як здание цёмнае начы, на промень сталі мы глядзець,
І несвядомых абхапіў няўстрымапы і буйны хмель...

А Новы Год нам суліць шмат і новых дзей і новы лёс.
Ярмо нявольнікаў-рабоў мы кінем ў процьму, у ватхлань
І жыцце новае пачном. І згіне жудасны хаос.
Будзь самсабою, Беларус,
на Новы Год на сонца глянь!

І не чакай ты ад чужых сабе падмогі, селянін!
Ты сам будуй на Новы Год палацы светлыя свае!
На роднай мове запяеш ты сярод ніў, сярод раўнін,
І закрасуюць на ўвесь свет паля багатыя твае!

*Публікацыя Уладзіміра КАЗБЕРУКА*

## У НОВЫ ГОД — СА СТАРЫМІ НАДЗЕЯМІ!

**Гэты нумар — і звычайны, і навагодні. Да свята прыйшлі мы з не зусім святочным настроем. Чорнае сёння не абяцае светлага заўтра. Але — надзея памірае апошняй. Лімаўцы віншуюць сваіх чытачоў з Новым годам. Не будзем губляць веру, беларусы! У Бога і ў сябе.**

**Будзьма разам у бядзе і шчасце не адвернецца ад нас!**



# ПРЫЙДЗЕ НОВЫ — А МУДРЫ...

## НЕШТА НАВАГОДНЯЕ ПАД ЗГАДКІ З КЛАСІКАЎ

**Заўтрашні дзень — апошні дзень сёлетнега, 1994-га года, неўпрыкмет, у цемрадзі касмічнае начы, пяройдзе ў першы дзень года наступнага — 1995-га. Гэты адвечны прыродны кругазварот не пазначаны аніякімі вешкамі, аніякімі гукавымі ці светлавымі сігналамі. Прырода наогул не лічыць дзён і гадоў. Па яе спаконвечных законах Зямля наша, круцячыся вакол сваёй восі, нястомна робіць круг за кругам вакол Сонца. А мы, яе насельнікі, заўважылі гэты кругабег Зямлі, час, за які яна абыходзіць Сонца, назвалі годам, і лічым іх, лічым і лічым. І не проста лічым, але яшчэ і звязваем з імі, гэтымі кругазваротамі калыскі нашай, нашага агульначалавечага зялёна-блакітнага касмічнага карабля, пэўныя летуценні і спадзяванні. І ў ноч, якую назвалі Навагодняй, зычым адно аднаму здароўя і дастатку, шчасця і радасці. А найперш кажам:**

**— З Новым годам!**

**Кажам і мы гэтыя словы. Кажам і сёлета, як казалі і летась, і пазалетась, і ўсе мінулыя гады. Кажам шчыра, ад усяго сэрца:**

**— З Новым годам, дарагія нашы падпісчыкі і чытачы! З надыходзячым 1995-ым! Здароўя, шчасця вам і дастатку ў хату!..**

**Ды амаль няма спадзявання на тое, што гэтыя шчырыя пажаданні спраўдзяцца...**

**Цяжкі, проста трагічны час перажывае наша Бацькаўшчына. Можа быць, самы трагічны за ўсю сваю шматпакутную і, даруйце за паўтор, трагічную гісторыю. Тры гады назад ёй выпаў яшчэ адзін (па ўсім відаць, апошні!) шанц паўстаць з нябыту, адрадзіцца, вярнуць свой народ у вялікую, вольную і новую сям'ю людскасці. І — зрушылася ж была справа, пачаліся рабіцца першыя, хай і не надта смелыя і рашучыя крокі па шляху адраджэння нашае мовы, культуры, духоўнасці, самой дзяржавы. І людзі пачалі выпроствацца, развінаць плечы, падымаць галовы, ачуньваць ад векавой летаргіі бяспамяцтва.**

**Ды толькі, як і стагоддзі назад, як і на пачатку нашага стагоддзя, голас наш, што прарэзаўся з-пад глыбаў уціску і ганьбавання, дужа напалохаў усё тых жа нашых "дабрадзеяў". І зноў, як і тады, усчаўся крык, енк і лямант: "Нет такого народа и такого языка! Все это вымыслы нацдемов, фашистов-националистов!" Ну, няхай трошкі інакш, больш "дэмакратычна", нешта аб двухмоўнасці, гвалтоўнай беларусізацыі, насаджэнні беларускай мовы і г. д. І, што самае прыкрае і балючае, у гэтым антыбеларускім хоры нямала галасоў нашых уласных манкуртаў і янычараў.**

**"Як я толькі нарадзіўся, бацька сказаў: "Кепска будзе..."; "Дык крычыце, біце ў звона: дурны мужык, як варона..."; "Народ, беларускі народ, ты цёмны, сляпы, быццам крот... І душу тваю абакралі, у ёй нават мовы няма..."; "Чаго вам хочацца, панове, які вас вымусіў прымус забіць трывогу аб той мове, якой азваўся беларус?"...**

**Калі, колькі дзесяцігоддзяў назад напісана гэта нашымі класікамі? Чаму ж і сёння радкі гэтыя гучаць надзённа? Чаму гэты "крык, што жыве Беларусь" мы і сёння згадваем, паўтараем услед за класікамі? Ды таму, што сітуацыя мала чым і змянілася. Мы і сёння, на згоне дваццатага стагоддзя, як і на ягоным пачатку, вымушаны зноў сцвярджаць сваё права "людзьмі звацца", даказваць, што мы не тутэйшыя, а адметны народ вялікай еўрапейскай сям'і народаў.**

**Мудрыя класікі шмат гадоў назад, звяртаючыся да народа, казалі і іншае: "Кінь вечны плач свой аб старонцы..." Даўно, ой як даўно час кінуць! Ды як не плакаць тут, калі "краю мой родны, як выкляты Богам"? Няйначай выкляты! Бо чым яшчэ вытлумачыць тое, што дзеецца-творыцца ў нашай старонцы? Прэзідэнт краіны не толькі не карыстаецца моваю абраўшага яго народа, а яшчэ, хай даруе яму Бог, і здзекуецца з яе, пасміхваецца і кпіць, як прышэлец-каланізатар з мовы нейкіх там тубыльцаў. Друк прыводзіць такое яго крылатае выслоўе: людзі, якія гавораць на беларускай мове, больш і рабіць нічога не ўмеюць, акрамя як гаварыць на беларускай мове! Услед за такім "таткам" — і ягоныя "дзеткі": практычна ніхто з новага кіраўніцтва краіны не карыстаецца дзяржаўнай — беларускай — мовай.**

**Сёння, на чацвёртым годзе пасля Віскулёў, незалежнасць краіны нашай усё яшчэ бадай фармальная. Боязна, што яна гэтакай і застанецца, што гэтае паняцце так і не напоўніцца рэальным зместам. Тое, што робіцца ў нас, гэта нават не тэатр абсурду. Там прысутнічае хоць нейкая логіка, скажам, логіка будовы і развіцця твора мастацтва. А тут? Людзям убіваецца ў галовы, што ўсе нашы беды — ад незалежнасці! Ці не адкрытым тэкстам сцвярджаецца, што мы сталі гэтак кепска жыць, бо, ці бачыце, захацелі суверэнітэту, незалежнасці. І нават больш: суверэнітэт, маўляў, гэта проста глупства! Ён можа быць і не быць, галоўнае — эканамічная інтэграцыя з Расіяй. І не кажыце нам, што недзе некаму суверэнітэт дапамог стаць на ногі! Што, суседзям на поўначы і захадзе ад нас? Дык жа ў нас зусім не такі менталітэт, нашаму менталітэту гэты самы ваш суверэнітэт, калі хочаце ведаць, шкодны!..**

**А вяршыняй развіцця гэтай "дэмакратычнай" думкі сталіся нядаўнія белыя плямы на старонках нашых газет. Вось тут, як той казаў, і жыві!**

**А між тым Новы год — вунь ён, на парозе. Нялёгкі, вядома, ён будзе. Па ўсім відаць, станем мы жыць яшчэ горш, чым жылі сёлета. Але ж мы — ці не самы цярплівы народ у Еўропе (а мо і ў свеце!), і трывушчасць нашая — зарука нашага выжывання і, у рэшце рэшт, насуперак усім "ворагам беларушчыны", росквіту. Зноў згадаем класікаў: "Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня!"; "Занімай, Беларусь маладая мая, свой пачэсны пасад між народамі!"; "Будзем сеяць, беларусы!"; "Вер, брат, жыцце залатое будзе ў нашай старане!" Таму — будзем верыць! Толькі вера ў паспяховасць нашае справы прынясе шчасце. Універсальнай формулы шчасця не існуе. Колькі філосафаў — столькі і вызначэнняў яго. Найбліжэй да ісціны, бадай, вось такое: шчасце — гэта чыстае сумленне. У большасці людзей, у народа нашага сумленне чыстае. Чалавек бачыць выратаванне ў сваім занятку, у сваёй жыццёвай справе, і таму ён павінен займацца сваёй справай, каб быць шчаслівым. Цягам доўгіх гадоў яму, усім нам не давалі рабіць гэтага і тым самым быць шчаслівымі, а прымушалі каваць агульнае, камуністычнае шчасце. Не атрымалася. Абярнулася вялікімі крыўдамі, горам, мільённымі ахвярамі, крывёю. Вось і трэба вяртацца да запаветаў продкаў: рабіць сваю справу, каваць уласнае шчасце.**

**Калі Новы год хоць трошкі наблізіць нас усіх да гэтага, да разумення гэтага — і на тым яму дзякуй. Таму яшчэ раз — з Новым годам!**

**Ну, а што да загалоўка нашага, дык, самі бачыце, ён таксама падказаны класікам. Ён абавязкова прыйдзе, новы і мудры. Толькі не гісторык, што "сказ павядзе". Адзін вядзе ўжо, дарэчы, не ўспрымаючы ў нашай гісторыі ні Аршанскай бітвы, ні Вялікага Грамадзяніна Бацькаўшчыны нашай Сапегу. Прыйдзе, "ужо ён ідзе" — Новы год, які, трэба спадзявацца, станецца сапраўды НОВЫМ не толькі намінальна, а і рэальна, а яшчэ і разумнейшым, гэта значыць, больш МУДРЫМ, чым былі апошнія нашы гады. Урэшце, колькі ж яшчэ не будзе шанцаваць беларусам на начальства, пра што таксама гаварыў адзін наш класік? Дык мо разам з Новым годам прыйдзе нарэшце і "з народу нашага прарок", чаму паспрыяюць, скажам, прызначаныя на 14 мая 1995 года выбары ў Вярхоўны Савет краіны? Дужа патрэбен ён нам, Прарок, а правільней — Лідэр, Бацька нацыі, які б здолеў скансалідаваць, з'яднаць усіх нас — рабочых, сялян, інтэлігенцыю, у тым ліку, вядома ж, і творчую. З'яднаць менавіта на грунце нацыянальнай ідэі, якая адна толькі і можа гэта зрабіць: падняць народ з каленяў і натхніць яго на справы вялікія, стваральныя, жыццядайныя.**

**З Новым годам, спадарыні і спадары!**

**Мікола ГІЛЬ,**
**галоўны рэдактар**

Адгалоскі

# НЕ КІЕМ, ДЫК ПАЛКАЙ

Калі намі кіраваў В. Кебіч, мне даводзілася выказвацца ў друку наконт грэбавання ім дзяржаўнай мовай. Мабыць, не зусім зручна цытаваць самога сябе, але, прабачце, паўтару адно тадышняе сваё меркаванне: "Будзе вельмі пікантна, калі хтосьці з замежных паслоў, якія зараз вывучаюць нашу мову, у час сустрэчы са спадаром Кебічам звернецца да яго па-беларуску, а ён па сваёй звычцы адкажа на "великом и могучем" ("ЛіМ" за 28 мая 1993 г.). Не ведаю, ці здаралася штосьці такое з "нашым Францавічам", а вось той, хто пасля прэзідэнцкіх выбараў заняў яго кабінет у Доме ўрада, паспеў ужо атрымаць сюрпрыз: амерыканскі пасол падчас уручэння вярыцельных грамат пачаў сваю прамову не беларускай мове. Гэтым, паводле Белінфарма, ён "прыемна здзівіў" Аляксандра Рыгоравіча.

Здзіўленне зразумелае: усё прэзідэнцкае акружэнне звяртаецца да яго на мове суседняй дзяржавы, а тут чужаземец і — на табе — на беларускай. Што ж тычыцца прыслоўя "прыемна", ужытага ў афіцыйнай інфармацыі, дык з гэтай нагоды мне прыйшоў у галаву вядомы выраз: "Паданне свежае, але паверыць цяжка". Сапраўды, калі родная мова радуе слых А. Лукашэнкі, дык чаму ён неўзабаве пасля інаўгурацыі распачаў на яе і наогул на беларушчыну рашучы наступ? І чаму ніхто з яго паплечнікаў не імкнецца зрабіць сваймі патрону такую ж прыемнасць, якую зрабіў дыпламат?

Адказы на гэтыя ці не рытарычныя пытанні ляжаць на паверхні. І ўсё ж нялішне сёе-тое нагадаць, аб сім-тым паразважаць. Яшчэ да ўзыходжання на палітычны Алімп Аляксандр Рыгоравіч зарэкамендаваў сябе вельмі актыўным парламенцкім прамоўцам. У свае рускамоўныя выступленні ён звычайна ўкрапваў адно-два, а то і больш беларускіх слоў. І амаль кожны раз яны гучалі ў яго вуснах з непрыхаваным абразлівым адценнем, як перадражніванне тых, хто не цураецца роднага слова. Гэта ж трэба, неаднойчы думаў, слухаючы радыё, так не паважаць мову, якую, паводле адной газеты, будучы прэзідэнт "усмоктваў з матчыным малаком". Згодзен з аўтарам выразу, але, пэўна, больш эфектыўным, чым тое ўсмоктванне, аказалася ўдзёўбванне кампартыйных русіфікатарскіх ідэй ды міфаў аб зліцці моў і нацый.

Калі б А. Лукашэнка заставаўся на сваёй старой пасадзе ў вёсцы Рыжкавічы, дык яго стаўленне да моў цікавіла б толькі вузкае кола людзей. Бадай, адна жонка і выказвала б сваю незадаволенасць поглядамі Аляксандра Рыгоравіча, напрыклад, на праслаўутае "двуязычие". Цяпер жа гэта прыцягвае ўвагу значнай часткі грамадства і дае падставы для справядлівай крытыкі шэрагу яго заяў і дзеянняў. У цывілізаваных краінах нельга і ўявіць, каб прэзідэнт дзяржавы выступаў перад сваім народам, на пасяджэннях парламента і ўрада на замежнай мове. Дарэчы, у Францыі дзейнічае закон, згодна якому можа трапіць у турму кожны, хто садзейнічае распаўсюджванню англіфікаваных слоў. А ў нас у часы таталітарызму першыя асобы рэспублікі, каб угадзіць Маскве, заахвочвалі русіфікацыю і зняважлівыя адносіны да роднай мовы. І цяперашні наш кіраўнік не карыстаецца ёй не таму, што, маўляў, яго не зразумеюць усе выбаршчыкі (С. Шушкевіча чамусьці разумелі дый на М. Грыба не скардзяцца, калі ён гаворыць па-беларуску), а таму, што даўно спісаў яе ў архіў. Мо я не маю рацыю? Тады няхай паважаны Аляксандр Рыгоравіч растлумачыць, чаму ён ужывае "великий и могучий" і ў тым выпадку, калі яго запытваюць на мове карэннай нацыі. Гэта, між іншым, я зведаў на ўласным вопыце.

Ну, а стаўленне да беларускай і рускай моў абсалютнай большасці лукашэнкаўскай каманды такое ж, як у таго чыноўніка, якога ўбачыў за мяжой "лучший, талантливейший" паэт, — да пашпартоў грамадзян розных краін. Памятаеце? Да адных — "плевое", інакш кажучы, нікуды не вартае, а да другіх — пачцівае. Няцяжка здагадацца пра адпаведнае дачыненне гэтых эпітэтаў да згаданых моў. Дзяржаўная ў няміласці нават у тых нашых высокіх чыноўнікаў, які па роду сваёй дзейнасці абавязаны ахоўваць яе і прапагандаваць. Іншы раз з імі адбываюцца амаль анекдатычныя выпадкі. Калі, напрыклад, старшыня нацыянальнай тэлерадыёкампаніі знаходзіўся на парламенцкай трыбуне, дэпутаты пацікавіліся, чаму ён выступае не на дзяржаўнай мове. Магу і на дзяржаўнай, адказаў Р. Кісель, але працягваў прамову на рускай. Маўляў, "важна суть, а не язык". Адразу пераходзяць на той жа "родной партийный" і падначаленыя яму журналісты, звяртаючыся да А. Лукашэнкі падчас сваіх рэпартажаў.

Нікольк не перабольшу, сказаўшы, што з усіх дзяржаўных моў свету наша знаходзіцца ў самым гаротным стане. Яе неаднойчы ні за што ні пра што моцна білі, але пакідаць у пакоі не збіраюцца. Вельмі сумна, што цяпер на яе замахваецца сам прэзідэнт. Замахі гэтыя — нібы ў насмешку над беларушчынай — зроблены менавіта там, дзе трэба з асаблівай пашанай і любоўю ставіцца да матчынага слова — у педуніверсітэце і Акадэміі навук. І калі ў сваім вераснёвым выступленні А. Лукашэнка лічыў Закон аб мовах нармальным, памяркоўным, дык у лістападаўскім аб'явіў пра яго неадпаведнасць Канстытуцыі. А з нядаўняй прэзідэнцкай прамовы ў Гомелі вынікае, што па-беларуску наогул нельга выказаць штосьці значнае.

Ці не спатрэбіліся Аляксандру Рыгоравічу лінгвістычныя пошукі, каб апраўдаць сваё нежаданне або няздольнасць добра вывучыць дзяржаўную мову? Яшчэ горш тое, што, як мне здаецца, наваяўленыя "языковеды" збіраюцца выпатрашыць з моўнага Закона ўсю беларускасць, каб ужыванне роднага слова зноў звузілася да фальклорнага мінімуму, а рускага — стала пашырацца (куды яшчэ шырэй?) з новай сілай. Тады і без змянення 17-га артыкула Канстытуцыі, што сёння, дзякуй Богу, нікому не па зубах, шавіністы-"звышінтэрнацыяналісты" з усёй сваёй рацыю пачнуць зларадніцаць: нацыянал-радыкалы, маўляў, працівіліся "двуязычию", дык няхай дзяржаўнай будзе адна мова — руская. Як кажуць, не кіем, дык палкай...

Уся гэта вакханалія нагадвае мне падзеі ў канцы 20-х гадоў, калі распачаўся бальшавіцкі паход супраць беларускага нацыянальнага руху. Насцярожвае, у прыватнасці, беспадстаўнае сцвярджэнне прэзідэнта аб тым, што нібы "кучка людей" хоча прымусіць народ размаўляць па-беларуску. Гэта ўжо не "проста" спроба затармазіць працэс беларусізацыі школы, а злавесная прыкмета: хутка, пад выглядам выкаранення "нацыяналізму", можа пачацца праследванне абаронцаў роднай мовы, руплівцаў нашага Адраджэння. Няма і гарантый таго, што заўтра не запрацуе рэпрэсіўная машына, якая ў часы дыктатарскага рэжыму знішчыла амаль усю нацыянальна-свядомую інтэлігенцыю.

Вядомы беларускі літаратар Уладзімір Юрэвіч у сваёй кнізе "Слова жывое, роднае, гаваркое...", вылучанай на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі, напісаў: "Нельга дапусціць, каб забойцам мовы стаў сам народ, лепш будзе выявіць канкрэтных забойцаў яе і выставіць на ўсенароднае асмяянне". Ці прыслухаюцца да гэтага слушнага выказвання нашы дзяржаўныя мужы? Ці задумаемся над ім усе мы, хто шануе сваю гістарычную спадчыну, дбае пра вяртанне незалежнай Беларусі яе нацыянальнага аблічча?

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

Пошта

# ЛІТВІНА

Не буду казаць пра ўсю Беларусь, у прыватнасці, усходнюю, але ў заходняй, прынамсі, у нас на Глыбоччыне, існуе пэўная дыферэнцыяцыя ўласных імёнаў. Напрыклад, Францішкі, Юзікі, Баляславы, Ванды, Альбіны і Хрысціны не могуць быць праваслаўнымі па веравызнанні; традыцыйна гэтыя імёны могуць быць толькі каталіцкімі, а ў народзе яны завуцца проста "польскімі". Што датычыць Светаў, Наташаў ці Валодзяў і Сярожаў, то гэтыя імёны вызначаюцца як тыпова праваслаўныя, альбо "рускія".

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ёсць і частка імёнаў, пераважна мужчынскіх, якія можна лічыць агульнымі: Аляксандр, Мікалай, Іван (Ян), але іх не так і шмат.

Як ні дзіва, да гэтай "хваробы" больш схільныя чамусьці менавіта беларусы. Для расейцаў гэта не мае ніякай вызначальнай ролі, бо яны, у пераважнай большасці — праваслаўныя і таму для іх з'яўляюцца даволі тыповымі такія імёны, як Станіслаў, Эдуард, Восіп, Хрысціна, Магдаліна, якія ў беларусаў прынцыпова не могуць быць праваслаўнымі, а толькі каталіцкімі.

Гадоў мо дзесяць таму, жывучы ў Латвіі, да мяне ў госці прыязджала мая маці. Даведаўшыся, што ў роднай сястры маёй жонкі дачка завецца Хрысцінай, спытала: "А яны што — палякі?" Не, кажу, рускія. "Дык чаго ж яны далі сваёй дачцэ польскае імя?"

Вось тут, як ніколі, будзе да месца прымаўка: "За двума зайцамі пагонішся — ніводнага не спаймаеш!" Народ, які да сёння дзеліцца на "ўсходнікаў" і "заходнікаў", на людзей "польскай" і "рускай" веры, і размаўляе альбо трасянкай, ці, прынцыпова, па-беларуску (нацыяналісты) і па-расейску (люмпен і камуністы), — гэты народ ніколі не будзе мець нічога свайго.

Тут зраблю невялікае адступленне ад тэмы, хаця гэта таксама мае пэўную заканамернасць. Згадаем сітуацыю, якая была на дзень прэзідэнцкіх выбараў: беларускія грошы (тады яшчэ не было дэнамінацыі) — "рускія" цэны ў магазінах; беларуская армія — рускія афіцэры; беларускія газеты — рускія тэксты, альбо двухмоўныя... І вось прэзідэнтам краіны абіраюць чалавека, які размаўляе па-руску з беларускім акцэнтам. Ну, як? Усё — заканамерна! Кожны народ годны таго лёсу і таго прэзідэнта, які ў яго ёсць!

У свой час "Песняры" вярнулі з нябыту імя Алеся, дзякуючы аднайменнай песні, але яно так і не стала папулярным, і ўсё з-за таго ж самага прынцыпу, бо яно не "польскае" і не "рускае", а — беларускае. Больш таго, у Латвіі я часта сустракаў гэтае імя сярод дзяцей рускіх пасяленцаў. Выйдзеш на балкон ці ў двор і чуеш: Алеся, Алеся... Спецыяльна высвятляў у сваіх дачок, якой нацыянальнасці бацькі ўсіх Алесяў-сяброўак, што прыходзілі ў госці. Як сталася — усе рускія. Латышы, якія не хварэюць комплексам двух старэйшых братоў, маюць свае адмысловыя ўласныя імёны: Вісвалдс — гэта нешта накшталт Уладзіміра, даслоўна — уладальнік (правіцель) усіх; Дайна, Дайніс — песня (дарэчы, гэтыя імёны, як і назва малдаўскіх цыгарэт "Дойна" і буларускай фірмы "Dainova", маюць агульнае паходжанне); Вілніс — хваля; Лайма, Лайманс — шчасце, Аўсма — світанак і г. д. Акрамя таго, ёсць шмат "экзатычных" імёнаў, якія, як мне падаецца, запазычаны ад скандынаваў (можа, і вікінгаў), і яны сустракаюцца толькі ў латышоў і ўжо ўспрымаюцца, як чыста латышскія: Іварс, Айварс, Ілмарс..., як "візітная" картка латышскай нацыі.

Практычна так і ёсць — пачуўшы імя і прозвішча чалавека, у прынцыпе можна сказаць амаль беспамылкова, з якой краіны і да якой нацыі належыць чалавек.

# НОВАМУ ГОДУ-95

Жадаю ўсім я толькі шчасця,
Ды Насця кажа: "Як удасца,
Бо што ні год — эксперыменты,
Хоць і няма апладысментаў".

Эксперыменты ў Новым годзе?..
Давайце скажам —
Хопіць! Годзе!
І нават лепшыя рэформы
Павінны ведаць свае формы.

Пад рынак падстаўлялі плечы,
Але ці выйшлі мы з галечы?
Нам абяцалі каравай,
Нібы той пропуск ажно ў рай.

Замест чакаемага раю
Над намі розных бедаў зграя.

Ці то ў Мінску, ці то ў Брэсце
Шукаем, дзе б танней пасесці.

Ды і звышхуткія спартсмены
Ужо не даганяюць цэны,
Бо ў гэтай рынчачнай цаны
На кожны "зайчык" — воз маны.

Нягледзячы на ўсе патугі,
Няма ўжо як сцягнуць папругі.
Даруйце нам, пан Прэзідэнт —
Не выйшаў тут эксперымент...

І ўсё ж, як аптыміст заўзяты,
Вітаю Дзевяноста Пяты —
Хай будзе *паваротным* год
Без непатрэбных нам прыгод!

Хай прынясе, нарэшце, радасць
Без абяцанак і надзей.
А замест іх усім нам хай дасць
Нармальна жыць, як у людзей.

Не трэба нам, як той халеры,
Каб стала болей мільянераў.
Хай кожны просты чалавек
Прыстойна пражыве свой век.

Хай будзе танная кватэра,
Абед і снеданне, вячэра,
Абутак, добрае адзенне
І ў старасці забеспячэнне,
І самая святая льгота —
Заробак ладны і работа.

Калі на ўсё на гэта згода, —
Вас я віншую з Новым годам!
На гэты раз нам нават Насця,
Напэўна, скажа: "Хай удасца!.."

**Якаў ЛІВАНАЎ**

*г. Мінск*

# НАРОД СПЯВАЕ ПРА СЯБЕ

Газета "Звязда" падвяла вынікі конкурсу на лепшую прыпеўку. Асноўныя прызы ўручаліся на тэлебачанні, дзе з усёй рэспублікі прыехаўшых людзей трымалі пяць гадзін: надумаліся зняць "жывы фальклор" без неабходнага ў такіх выпадках мантажу. З-за гэтага аказаўся пад пагрозай зрыву вечар у Доме літаратара. Яго ратавалі то Г. Шупенька з гармонікам, то В. Шалкевіч з гітарай.

Нарэшце з'явілася ініцыятарка конкурсу Алена Ціхановіч з гуртам галодных і стомленых прыпевачнікаў, і спехам абранае журы давяршыла раздачу прызоў і падарункаў. Каштоўныя падарункі ад "Дайновы" (прысутнічаў сам Адам Палюховіч), "Амкадора" (прадстаўляў С. Грушэцкі) і іншых фундатараў атрымалі Станіслаў Лось з Глыбокага, маладая юрыстка Галіна Сяргей з Гродна, бібліятэкар з Валожыншчыны У. Буракоўскі, настаўніца з Пастаў Ніна Захарэвіч і многія іншыя. Спяваліся і чыталіся прыпеўкі.




Транспартныя выдаткі дзеля такога выпадку ўзяла на сябе таксама "Дайнова". Жадаючыя набылі кніжачку "Народ спявае пра сябе", ва ўступе да якой гаворыцца: "Такое ўражанне, што конкурс у "Звяздзе" абудзіў прытоены, незапатрабаваны талент народны". Падобна, што так яно і ёсць...

**Г. К.**

# ДЗІЎНЫ ВЫБАР

У "ЛіМ" даслалі старонку з "Российской газеты" за 17.09 г.г. з рубрыкай "Газета ў газеце". Чытачы беларускіх газет дэмакратычнага накірунку, разлічаных на высокі інтэлект свайго падпісчыка, напэўна, будуць здзіўлены, калі даведаюцца, што расійская ўрадавая газета для запрашэння на свае старонкі не знайшла больш вартага выдання на Беларусі, чым "Советская Белоруссия".

Мабыць, ад роспачы, што губляе ўладу над былымі савецкімі паслухмянымі рэспублікамі, Расія вырашыла падтрымаць іх антынародныя, антынезалежніцкія выданні. Інакш не растлумачыш...

**НАШ КАР.**

Гартаеш старонкі кніг, напісаныя беларускімі гісторыкамі. Рагнеда, Прадслава, Вітаўт, Альгерд, Альжбета. Слухаеш песні. Алеся, Кася... Усё — сваё, роднае...

Прыслаў аднойчы мой зямляк Кастусь Акула з Таронта свой часопіс "Зважай". Чытаю: "Дарагія Суродзічы! Ад імя свайго і маёй спадарыні Літвіны складаю Вам падзяку за маральную і фінансавую дапамогу ў маёй судовай справе. (...) Беларускі шчыры дзякуй! Хай жыве Рэспубліка Беларусь! Сяргей і Літвіна Гутырчык".

Літвіна. У дзяцінстве часта чуў і ў нас у Глыбокім гэтае пекнае жаночае імя. Цяпер — не. Няма носьбітаў гэтага імя — састарэлі і адышлі ў лепшы свет. Імя гэтае амаль забытае. А было ж яшчэ і мужчынскае — Літвін, не прозвішча, а — імя.

Вось бы нам, беларусам, уваскрэснуць з гэтым імем! Гэта ж настолькі наскае, што, пэўна, больш і не знойдзеш.

Напэўна, трэба было б Таварыству беларускай мовы ўзяць на сябе ініцыятыву — сабраць усе беларускія ўласныя імёны і выдаць папулярны зборнік.

Ёсць і ў нас, беларусаў, свае цудоўныя і рамантычныя імёны. А раз ёсць імёны, то ёсць і народ.

**Уладзімір СКРАБАТУН,**
**краязнаўца**

*п. Глыбокае*

# ЗНАЧЫЦЬ — ЗДЫМАЦЬ КІНО?

## АМАЛЬ ЮБІЛЕЙНАЕ

Бясконцы смехаплач з нагоды прыналежнасці або непрыналежнасці тутэйшай кінапрадукцыі да нацыянальнай у прынятым сэнсе слова, здаецца, аціх. Ёсць пакуль дзе здымаць, што здымаць, чым здымаць — і добра. Выпадае як распарадзіцца тым, што наздымана, — і няблага. І тое, што сямідзесяцігоддзе беларускага кінематографа не адзначана (так і хочацца пагуляць слоўкам ды напісаць — не азмрочана) вялікімі дасягненнямі ў галіне партрэтавытворчасці прадстаўнікоў сёлетняга ўрада або шчыратутэйшай якойсь "Лявоніхай" на фоне значных разбудоўляў... прыбудоўляў... перабудоўляў канца тысячагоддзя, — паказальна. Экранізуецца, напрыклад, Шамякін, экранізаваны Марчук і Ян Баршчэўскі. "Кветкі правінцыі" даласуюцца да "Эпілога" перад "Шляхціцам Завальнем..."... Відавочна, дзякаваць за гэта трэба не Богу. Але — не ведаю каму...

На афіцыйную вечарыну адзначэння сямідзесяцігадовай даты мусіла сабрацца процьма госцікаў дарагіх. "Баюся, проста месцаў у зале не хопіць", — прабачаўся Юры Цвяткоў, самы галоўны чалавек нашай кінавытворчасці. Прыкрасць прыкрасцяў! Ці то мне асабіста, ці то мне разам з "ЛіМам" гэтых месц бракуе і на з'ездзе кінематаграфістаў, і на вечарыне, і на прэм'еры фільма... Авохці. Ад гаркавае праўды жыцця не схаваешся. Але прыйдзе праўда мастацтва і давядзе сваю рацыю. Вось толькі што яна ёй перадасць? Што сямідзесяцігоддзе надышло?

...І сямідзесяцігоддзе надышло. У рэчышчы невялікіх, вялікіх, буйных і трохі буйнейшых фестываляў, прасцей, мабыць, паказаў для агульнаглядацкага азнаямлення з фільмамі... не дубляванымі з англійскай, французскай або кітайскай. Раз-пораз мільгалі і беларускія стужкі апошніх гадоў вытворчасці. У цітрах плылі імёны стваральнікаў. Знаныя, прызнаныя, вядомыя і вельмі вядомыя. Здымалася тое, што паказвалася, паводле — па матывах, па матэрыялах, па назіраннях. Натуральна, драматургаў, журналістаў, паэтаў і пісьменнікаў. З удзелам акцёраў Купалаўскага, Коласаўскага, Рускага, Альтэрнатыўнага, Оперы і балета і Юнага гледача тэатраў. Колькасна пераважалі прадстаўнікі Тэатра-студыі кінаакцёра. Быў страх, што сёлета не будзе як фінансаваць яе доследы ў тэатральным мастацтве, але "нас пры самім Машэраве адчынялі", — даводзілі кіраўнікі: маўляў, не тым, хто парогу залы на праспекце згаданага імя не пераступаў, іхні лёс вырашаць. Слушна. А як-такі пераступяць той парог?

Сямідзесяцігоддзе надышло. І, магчыма, цяпер выпадае прадбачыць толькі адно: наперадзе ў нашага кіно больш, як ззаду. І, паводле народнае мудрасці, ззаду было кінута сёе-тое, каб наперадзе, гэта значыць, цяпер, знайсці. Але што кідаць сёння, каб заўтра было што знаходзіць? А як будзе, калі ўсё закінутае пазнаходзім?

"Трэба рабіць сваё", — падказвае класікава мудрасць.

Значыць, застаецца толькі — здымаць кіно?..

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# НЯХАЙ ЗОРКІ ЗАГАРАЮЦЦА...

## ПРЭЗІДЫУМ РАДЫ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ АБМЯРКОЎВАЕ ЧАСОПІС "ПЕРШАЦВЕТ"

***Нагодай для гэтага стаў двухгадовы юбілей выдання маладых літаратараў. Думаю, слова "юбілей" не пакажацца каму-небудзь гучным, калі падлічыць колькасць новых імёнаў, адкрытых за гэты час "Першацветам", колькасць праведзеных першацветаўцамі выступленняў у школах і бібліятэках, а да таго ж колькасць цяжкасцей (з памяшканнем, заснавальнікам, штатам і г. д.), пераадоленых часопісам з дня свайго з'яўлення. Зрэшты, справа, вядома, не ў колькасці, а ў якасці. І таму два гады існавання "Першацвета", мне думаецца, толькі знешняя, так бы мовіць, падстава для таго, каб часопіс маладых літаратараў стаў прадметам абмеркавання на прэзідыуме рады СП. "Першацвет" даўно ўжо, як кажуць, саспеў для сур'ёзнай і прынцыповай гаворкі...***

Адкрываючы сход, старшыня Саюза пісьменнікаў Васіль ЗУЁНАК сказаў:

— На парадку дня ў нас абмеркаванне часопіса "Першацвет", яго творчых здабыткаў і планаў. Мы вырашылі вынесці гэта пытанне на прэзідыум, бо, я думаю, гаворка сёння павінна пайсці шырэй — не толькі пра "Першацвет", але й наогул пра нашу працу з літаратурнай моладдзю. Сапраўды, нейкім, можа быць, нават трывожным чынам гэтая праблема паўстае перад намі: як моладзь уваходзіць у літаратуру, у якіх стасунках іх настроі да нашага творчага саюза. Не сакрэт, што ёсць захады пэўнай часткі літаратараў нейкім чынам адасобіцца, стварыць свае аб'яднанні (успомнім тут, напрыклад, ТВЛ). І хоць нічога страшнага ў тым няма, трывожыць адно — усе гэтыя захады робяцца як бы насуперак ці ў піку нашаму СПБ, нібыта сабраліся тут усе нявольнікі літаратуры, а там, маўляў, веюць вольныя ветры, якія і заклікаюць ад нас, нявольнікаў, адлучыцца... Тым не менш час і жыццё паказваюць: захады гэтыя заканчваюцца тым, што самыя здольныя і таленавітыя пазней ці раней горнуцца да саюза. Можна нагадаць прыклад "Тутэйшых", якія ствараліся, сапраўды, у барацьбе, хоць і ўяўнай з іх боку, з СП. Пазней жа, пасля нейкіх, так бы мовіць, дэмаршаў, лепшыя прадстаўнікі "Тутэйшых" сталі членамі СПБ. І вось прыклад зусім супрацьлеглы — з "Першацветам", які аб'яднаў вакол сябе людзей новай хвалі, маладзейшых творцаў, якія душой і настроем увесь час гарнуліся да саюза. Думаю, яны зараз не ў крыўдзе: знаходзяцца пад нашым дахам, дзе нарэшце знайшлі сабе прытулак пасля доўгага блукання па пакутах. І ўжо тое, што мы кожны раз бачым тут маладых, якія прыходзяць у рэдакцыю са сваімі творамі, а па панядзелках горача іх абмяркоўваюць, — вельмі нас радуе...

Далей слова ўзяў галоўны рэдактар "Першацвета" Алесь МАСАРЭНКА. Ён, пазнаёміўшы прысутных з супрацоўнікамі часопіса, расказаў пра гісторыю і станаўленне выдання, яго сённяшнія турботы і планы на будучыню. Асаблівую ўвагу прамоўца звярнуў на працу былога і цяперашняга літаб'яднанняў, непасрэдную сувязь іх дзейнасці з жыццяздольнасцю самога часопіса:

— За час працы літкансультантам у "Чырвонай змене" мне ўдалося актывізаваць работу літаратурнага аб'яднання "Крыніцы" і наладзіць выпуск літаратурных палос (іх было ажно чатыры ў колішнім штотыднёвіку). Праз два гады ў актыве літаратурнай сябрыны "Крыніцы" было ўжо больш за сто аўтараў-пачаткоўцаў. "Панядзелак — творчы дзень", — жартавалі крынічанцы за шклянкай гарбаты. Час ішоў... Маладыя літаратары сталелі. Нехта з іх ужо сваёй першай публікацыяй звяртаў на сябе ўвагу (Уладзімір Клімовіч, Алесь Пашкевіч, Мікола Віч, Юлія Алесьніна, Алесь Дуброўскі, Людміла Барадзейка і інш.), вылучыўся, так бы мовіць, не толькі як творца, але й светапоглядам сваім, паказаў сябе нераўнадушным да надзённых праблем, сярод якіх адной з найгалоўнейшых была і застаецца праблема адраджэння нашай Бацькаўшчыны... Пры часопісе зноў актывізавала сваю дзейнасць літаратурная суполка. Але цяпер ужо не чырвоназменаўскія "Крыніцы", а першацветаўскі "Літаратар". Нашае літаб'яднанне працуе не толькі з тутэйшай — сталічнай — творчай моладдзю. Мы прыязна і зацікаўлена ставімся да творчасці ўсіх тых перыферыйных пачаткоўцаў, хто супрацоўнічае з "Першацветам". Збіраемся наладзіць творчыя сувязі з літаб'яднаннямі ўсіх абласных і раённых гарадоў рэспублікі. Дарэчы будзе ўспомніць, што літаратары з Клецкага раёна бадай адны з першых далучыліся да "Першацвета", і вось прыклад — Таццяна Цвірка, маладая настаўніца, ужо тройчы надрукавала свае творы на старонках часопіса...

Не праміну ў А. Масарэнка і "пахваліцца":

— Пад гасцінным дахам Дома літаратара першацветаўцам сёння плённа працуецца. Тут чыста і цёпла, светла і ўтульна, тут кожны дзень — творчы, кожная сустрэча — цікавая, незабыўная. Ужо нават тыя з пісьменнікаў, хто напачатку не спрыяў нам (былі, на жаль, і такія), сёння глядзяць на "Першацвет" без рэзі ў вачах і ўпотай мараць патрапіць на старонкі яго "Гасцёўні". Заўважылі часопіс і нашы слаўныя бізнесмены. Я гэтае слова кажу без насмешкі, але напаўжартам, бо не лічу вялікімі "таўстасумамі" ні Уладзіміра Клімовіча, ні Валерыя Грышановіча, якія з'яўляюцца фундатарамі літаратурных прэмій часопіса. У мінулым годзе Прэмію перспектывы ад Уладзіміра Клімовіча атрымаў Андрэй Гуцаў, у гэтым годзе — Сяргей Мандрык і Ірына Шаўлякова. Ад фірмы (дырэктар В. Грышановіч), каардынатарам якой з'яўляецца вядомы паэт Анатоль Сыс, атрымалі прэміі трое нашых першацветаўцаў: першую — Інга Гаравая, другую — Алесь Дуброўскі, трэцюю — Анатоль Брусевіч.

Адзначыўшы відавочную адметнасць часопіса ў сённяшнім літаратурным жыцці, сваё выступленне А. Масарэнка закончыў запэўніваннем: "Творчыя далягляды маладых літаратараў незахмараныя. Ім і пасталелым ёсць куды пайсці ("Полымя", "Маладосць"), абы было б з чым".

Прадстаўленне "Першацвета" прысутным прадоўжылі намеснік галоўнага рэдактара Алесь ПАШКЕВІЧ, рэдактары аддзелаў прозы Алесь ДАВЫДАЎ і крытыкі Ірына ШАЎЛЯКОВА, сябра рэдакцыйнай калегіі Юлія АЛЕСЬНІНА. Іх разва-

*(Працяг на стар. 4)*

# ВЫЦІСНУЦЬ З СЯБЕ РАБА...

**Калі я не памыляюся, заснавальнік камуністычнага вучэння Карл Маркс у свой час сцвердзіў, што чалавецтва развітваецца са сваім мінулым смеючыся. Пры ўсёй павазе да знакамітага мысліцеля вымушаны сказаць, — тут ён даў маху, на прароцтва гэтае яго сцвярджэнне не цягне.**

**Ва ўсякім разе, у цяперашнюю гістарычную эпоху. Са сваім камуністычным мінулым чалавецтва, а калі больш дакладна, тая яго частка, што жыла на прасторах былога эсэсэсэра, развітваецца не смеючыся. І не таму, што яму гэтага мінулага шкада, а таму, што яно працягвае нагадваць пра сябе на кожным кроку.**

**Па тым жа Марксавым сцвярджэнні, у гісторыі ўсё паўтараецца — толькі па першым разе — як трагедыя, па другім —як фарс. Падобна на тое, што ў нас усё пачалося з фарсу.**

**Хіба гэта не фарс, калі ўчарашні цвёрдакаменны бальшавік, міліцэйскі генерал і ўнутраных спраў міністр зараз выдае сябе за абаронцу дэмакратыі, а нядаўнія дэмакраты — антыкамуністы цяпер у парламенце патрабуюць абмежаваць свабоду слова пры дапамозе КДБ?! Калі ў нядаўнім мінулым "крутыя" партнаменклатуршчыкі сёння — сярод кіраўнікоў Кабінета Міністраў і заклікаюць ісці рынкавым шляхам у эканоміцы, а ўчарашнія беспартыйныя рабочыя і сяляне палаўняюць шэрагі партыі камуністаў Беларусі, дэкларуючай сацыялістычныя каштоўнасці?! І прыкладам падобным — "несть числа".**

**Адным словам, усё змяшалася ў "доме Аблонскіх". А з абраннем першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які, як аказалася, перафразуючы словы аўтараў неўміручых "Дванаццаці крэслаў", паветра таксама не азаніруе, атмасфера ў тым "доме" яшчэ больш згусцілася.**

**Дык пры якой уладзе мы жывём? Ёсць такі анекдот, амаль прытча пра ваенны завод, які многія дзесяцігоддзі выпускаў аўтамат Калашнікава, пакуль аднойчы тут вырашылі правесці канверсію і перапрафіляваць прадпрыемства на выраб самавараў. Паставілі новае абсталяванне, забяспечылі сябе адпаведнымі камплектуючымі дэталямі, але што за дзіва — у зборачным цэху з гэтых "самаварных" дэталяў зноў атрымліваліся аўтаматы Калашнікава.**

**Так і ў нас. Якія б палітычныя метамарфозы ні адбываліся ў дзяржаве, а ў выніку атрымліваецца адно і тое ж — савецкая ўлада.**

**А што народ? А народ "безмолствует". Ён разгублены ад "свабоды", якая на яго абрынулася і з якой ён не ведае што рабіць. Бо мінулае моцна трымае нас абедзвюма рукамі — мы ніяк не можам выціснуць з сябе рабоў, пазбавіцца рабскай псіхалогіі, рабскага светаўспрымання, усмактаных з малаком маці, той самай маці, пра якую хораша спявалася ў вядомай прыпеўцы пра Юрыя Гагарына: "Ой, Гагарин, ты могуч, ты летаешь выше туч, прославляешь до небес мать твою кпсс".**

**Выціснуць з сябе раба... Далібог, сітуацыя амаль як у тым біблейскім паданні аб прароку Маісеі, які вывеў свой народ з егіпецкага палону і блукаў з ім сорак гадоў па пустыні. А, напросту, цягнуў час, бо хацеў прывесці ў зямлю запаветную толькі тых, хто не жыў у рабстве, хто нарадзіўся ўжо свабодным.**

**Але ж у чым былі вінаватыя тыя, што ў рабстве тым нарадзіліся і жылі? У чым вінаватыя мы?**

**Міхась ЗАМСКІ,**
**рэдактар аддзела публіцыстыкі**



# НЯХАЙ ЗОРКІ ЗАГАРАЮЦЦА...

*(Пачатак на стар. 3)*

жанні, уражанні ад працы з пачаткоўцамі, ацэнкі творчасці аднагодкаў і работы часопіса былі небяспрэчныя. Што ж, апошняя акалічнасць, трэба думаць, толькі паспрыяла таму, што гаворка адразу ж выкіравалася на дзелавы, прынцыповы, непаблажлівы і канструктыўны шлях.

Слова — удзельнікам абгаварэння.

Галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" Генрых ДАЛІДОВІЧ:

— Калі часам заходзіць гутарка пра тое, ці трэба "Першацвет", я думаю, адказ павінен быць адназначным: трэба, — і добра, што ён ёсць. Што датычыць узаемаадносін "Першацвета" і "Маладосці", то праблема гэта надуманая, і супрацьстаяння тут ніякага няма: многія аўтары, якія пачынаюць у "Першацвеце", пасля прыносяць свае творы ў "Маладосць" — словам, два гэтыя выданні толькі адно адно дапаўняюць і адно аднаму дапамагаюць.

Калі гаварыць пра паэзію, то трэба адзначыць, што паэзія часопіса, сапраўды, вельмі моцная, тут многа цікавых творцаў. Трохі іншая справа з прозай. Спецыфіку першацветаўскай прозы абумоўлівае, па-першае, невялікі аб'ём гэтага выдання, і таму, зразумела, у аснoўным у ім прадстаўлены невялікія жанры. А па-другое, выразна заўважаецца імкненне многіх маладых аўтараў адысці ад традыцыйных формаў, ад рэалізму, іншымі словамі, унесці ў літаратуру нейкі новы жывы струмень, што, зразумела, вельмі добра, паколькі якраз гэтага (фантастыкі, містыкі, дэтэктыву і г. д.) вельмі не хапала доўгі час нашай літаратуры. Тут бы я хацеў назваць трох аўтараў: Сяргея Мінскевіча, Сяргея Шамёнка і Аксану Клімовіч. Найбольшага поспеху, як мне здаецца, дасягнулі якраз тыя з першацветаўскіх празаікаў, хто піша ў традыцыйным (у лепшым сэнсе гэтага слова) накірунку, і тут перш за ўсё хацелася б адзначыць прозу Анатоля Крэйдзіча, чыя кніжка нядаўна выйшла ў "Бібліятэцы "Маладосці". Вельмі цікавы і перспектыўны аўтар!

Народны пісьменнік Беларусі Іван ШАМЯКІН:

— Скажу шчыра: узрадаваўся, калі з'явіліся першыя нумары часопіса. Галоўнае, што мяне радуе, — надзвычай многа імёнаў, асаблівa ў паэзіі. І асабліва радуе, што ў паэзіі многа дзяўчат. У гісторыі пасляваеннай літаратуры ніколі не было столькі дзяўчат, колькі адкрывае іх "Першацвет". І паэзія гэтая — на добрым узроўні, сучасная паэзія, у якой адчуваюцца і майстэрства, і пачуццё, хай нават дзе-нідзе і прабіваецца наіўнасць.

Менш парадавала мяне проза. Я разумею вашы складанасці: узрост, аб'ём, немагчымасць змяшчаць больш-менш доўгія рэчы. Натуральна, вы вымушаны даваць кароткія апавяданні, абразкі... Але іх жа якраз і цяжэй за ўсё пісаць! Абразок, напрыклад, — гэта ўжо нешта філасофскае павінна быць, я так разумею. Некаторыя ж з вашых абразкоў нагадваюць абразкі "Нашай Нівы". Але ж тады гэта было разлічана на селяніна з двума класамі царкоўнапрыходскай школы, вы ж адрасуеце свае творы вашым калегам-студэнтам, вучням старэйшых класаў, добра адукаваным, патрабавальным, пераборлівым...

Вось, напрыклад, кароткае апавяданне "Яснае неба" Жаны Іваноўскай. Нагадаю сюжэт: два гады дзяўчына чакала свайго хлопца з Афганістана. Нарэшце дачакалася, ды неўзабаве ён трагічна загінуў, разбіўшыся на матацыкле. Як мне здаецца, па дзвюх старонках пра такое расказваць нельга! Ці, прынамсі, ужо так трэба расказаць, каб гэта мяне ўсхвалявала, узрушыла. Інакш — гэта проста канстатацыя факта. Вось і вынік: відавочна, Жана Іваноўская — дзяўчына з божым дарам, але апавяданне ў яе, на жаль, не атрымалася.

Ці яшчэ адзін прыклад. Аповесць "Пілігрымы" Алеся Давыдава. Безумоўна, чалавек ён таксама з божай іскрой. І аповесць сама па сабе — цікавая, цікавая перш за ўсё сваімі каларытнымі незвычайнымі героямі, якіх аўтар хацеў зрабіць, як я разумею, сімваламі эпохі. Але, па-мойму, замнога ў аповесці прыгодніцтва, што яе і псуе.

З усяго, што я прачытаў, найлепшае ўражанне на мяне зрабілі апавяданні Міраславы Лукшы — па-мойму, гэта прафесійна, хораша зроблена...

Але давайце задамо сабе пытанне: ёсць сённяшняе жыццё і ў паэзіі, і ў прозе "Першацвета"? Мне здаецца, найбольш выразна і час наш, і гісторыю паказаў васьмідзесяцісямігадовы Алесь Звонак, які надрукаваўся ў першацветаўскай "Гасцёўні". Юныя ж аўтары часопіса жывуць нібыта на небе, а не на зямлі. Трэба ўсё-такі неяк бліжэй да жыцця...

Крытык і літаратуразнаўца Міхась ТЫЧЫНА:

— "Першацвет" не мае аналагаў. Выданне унікальнае. Прыгадваецца хіба толькі "Литературная учеба", часопіс, які выдаваўся ў часы, калі тварыў Горкі. Я гартаў тое выданне. Яно было разлічана на ўдарнікаў ад сахі, і тлумачылася там самае элементарнае: што такое сюжэт, кампазіцыя і г. д. У "Першацвеце" рэдка сустракаюцца элементы вучобы (прынамсі, мне ўспамінаюцца толькі два артыкулы пра санет і верлібр, між іншым, цікавыя артыкулы), і гэта, трэба сказаць, натуральна. Цяперашнім маладым літаратурная вучоба проста непатрэбна. Ім, вучаным-перавучаным, разуменні такіх паняццяў, як, напрыклад, сюжэт альбо сістэма герояў, толькі перашкаджаюць тварыць. Прыгадваючы ўсё тую ж "Литучебу", падкрэслю: вельмі хутка яна ператварылася ў салідны часопіс, стаўшы на ўзровень самых папулярных на той час выданняў. За кошт чаго? Па-першае, там друкавалі маладых. А па-другое, тут жа, побач з творамі, змяшчаліся і іх разборкі. Ведаю, што на пасяджэннях і вашага літаб'яднання горача спрачаюцца, абмяркоўваючы творы пачаткоўцаў. Але ж усё гэта — па-за межамі ўласна часопіснага нумара. Мне здаецца, варта было б перанесці такія абмеркаванні (няхай гэта будуць дзве супрацьлеглыя думкі на адзін і той жа твор) на старонкі самога часопіса. Цікава было б і карысна...

Пытанне аб творчых спрэчках пры абмеркаваннях я закрануў невыпадкова. Выкладаючы ў выпускных класах у гуманітарным ліцэі ўжо другі год і добра ведаючы магчымасці маіх выхаванцаў, я часта ім кажу: "Нясіце свае творы ў "Першацвет". Гэта ж ваша выданне!" (А "Першацвет" яны цудоўна ведаюць, кожны раз вывучаюць яго ад коркі да коркі.) І вось дзіўна — многія ліцэісты скептычна адносяцца да накірунку часопіса, не жадаюць там друкавацца. Па-першае, многія з іх — прыхільнікі тарашкевіцы, а яна ў часопісе не культывуецца. Па-другое, на іх погляд, "Першацвет" дужа традыцыйны. Вось і ў мяне ўражанне, што вы — у добрым сэнсе — аказаліся традыцыйнымі і, шчыра кажучы, гэтая традыцыйнасць асабіста мне больш блізкая. Разумам жа я адчуваю, што сучасная літаратура, літаратура XX стагоддзя — крышку іншая, чым XIX. Усё заходняе мастацтва, на якое арыентуецца моладзь, — гэта, па сутнасці, снабачанне, фантасмагорыя. І таму, нядаўна набыўшы адзінаццаты нумар "Першацвета", я з радасцю заўважыў, што ў ім ёсць рэчы, якія рассоўваюць, як мне здаецца, вузкаватыя вароты літаратуры.

Што ж датычыць мовы: правапісу, сам я, напрыклад, лічу сябе ахвярай рэформы 33-га года. І зараз, пакуль усё ў гэтым сэнсе яшчэ вагаецца, становіцца, думаю, трэба дазваляць нейкі пошук, эксперыментаванне. І яшчэ. Рэдактар, як цудоўны знаўца мовы, магілёўскага дыялекту, на мой погляд, трошкі рэтушуе мову выдання. Канечне ж, у першым варыянце, прынесеным у рэдакцыю, яна больш няўклюдная, але, можа, трэба часам і захоўваць яе, можа, і не трэба габляваць пад нейкі сярэдні варыянт.

Ёсць у мяне яшчэ некалькі заўваг-пажаданняў вашаму часопісу: і наконт "Гасцёўні", куды часам трапляюць рэчы, якія, здаецца, маладых вучаць, як не трэба пісаць, і наконт яўных пералеваў, якія рэдка, але ўсё ж прамільгваюць у "Першацвеце"... У такіх выпадках, канечне, трэба быць больш строгімі...

Прызнаюся, не ўсё чытаў, але многія імёны звярнулі на сябе ўвагу — і Анатоля Крэйдзіча, і Алеся Пашкевіча, і Уладзіміра Клімовіча, і Алеся Ветаха, і многіх іншых. Наогул жа, часопіс вельмі патрэбны. Памятаю, гадоў трыццаць назад у адной палескай школе я праводзіў наступны эксперымент: замест урока вёў вучняў на прыроду і ў якасці хатняга задання патрабаваў пісаць вершы. І колькі ж было вершаў! Але іх не было куды дасылаць: да "Маладосці" яны не дацягвалі, а такога часопіса, як "Першацвет", тады не было. Цэлыя пакаленні прайшлі міма літаратуры. І вось зараз, калі ёсць "Першацвет" і калі бачыш на яго старонках юныя-юныя твары, становіцца радасна: і мову вучым, і разуменне літаратуры (няхай і школьнае) ужо ёсць. Безумоўна, часопіс робіць вельмі вялікую справу.

Народны пісьменнік Беларусі Янка БРЫЛЬ:

— Добра, што зайшла гаворка пра наіўнасць. Возьмем двух вялікіх. Гётэ гаварыў, што геній — гэта чалавек, які ад нараджэння да смерці можа быць у сваёй душы дзіцем. Маркес казаў, што ўся яго творчасць ідзе з міфаў яго маленства... "Першацвет" як часопіс творчай моладзі, а па сутнасці яшчэ дзяцей, хай нават са сваёй наіўнасцю, — прыемная з'ява. Дзякуючы ветлівасці і гасціннасці рэдакцыі, я часопіс многа чытаў, браў у вёску з сабой на лета, потым нават прапагандаваў, даваў Вялюгіну, Аўрамчыку... Бясспрэчна, Алесь Масарэнка пачаў вялікую справу. Я мог бы назваць і імёны (яны ўжо называліся), але баюся каго-небудзь прапусціць. Агульнае ж уражанне такое: ідзе добрая моладзь, з добрым густам, чыстай душой, аддаецца сваёй справе...

Наконт рэалізму і снабачання, розных пошукаў. Цяпер у нас неяк пайшло, што рэалізм — гэта ўжо як быццам лаянка. Але ж давайце паглядзім: дзе, хто пераплюнуў рэалістаў Буніна, Чэхава, Мапасана? А сёння ўжо так атрымліваецца: яшчэ шукае нечага, а ўжо адмаўляе тое, чаго сам не можа. "Чорны квадрат"! І гэтыя мяшчане ўтаропяцца, як баран на новыя вароты! Ну, а мне ён нічога не гаворыць, гэты чорны квадрат. Гэтак, як і белы аркуш, названы "вершам", нічога не гаворыць! Няма чаго хаваць — чалавек мудрагеліць. Калі ў кагосьці ёсць нешта на душы, ён мудрагеліць не будзе.

Што ж тычыцца тарашкевіцы, дык з усіх вас, прысутных, здаецца, адзін я па тарашкевіцы вучыўся. І гэта, паверце, не тая тарашкевіца, якую цяпер мне пад нос сунуць. Паланізмы бясконцыя сунуць! Самыя наглыя паланізмы ідуць пад выглядам тарашкевіцы. Калі ёсць, напрыклад, два словы ў польскай мове (украсць і скрасць), дык маладыя ўжо і пішуць: "скраў карову". Чаму гэта я павінен праз правае плячо левае вуха чухаць?! І ўжо да такога даходзяць часам: "мэталёем"! Во як! Ужо лём, значыць! Нам трэба пісьменная літаратурная мова. Хай будуць адхіленні (Іван Паўлавіч Мележ, скажам, даў харошы прыклад у гэтым сэнсе), на здароўе! Мы вось-вось дабіваемся сапраўднай літаратурнай мовы, дык навошта ж яе каржакаць такімі вось "мэталёмамі"?.. Пачуццё меры трэба ва ўсім.

Галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей ЗАКОННІКАЎ:

— Трэба шчыра сказаць, узровень "Першацвета" — высокі. Высокі, як такога выдання. У свой час, памятаю, мы радаваліся і не такім поспехам, мы радаваліся вельмі-вельмі слабенькім вершыкам і апавяданням. З іншага боку, прыйсці ў літаратуру цяжка ў любы час. І няхай тут усё будзе абстаўлена камп'ютэрамі, тэлевізарамі, чорт ведама чым, — знайсці тое жывое, непаўторнае і яркае (тое, што ўдалося знайсці "Першацвету") будзе заўсёды надзвычай цяжка. Мне давodзілася бачыць і праглядаць больш-менш аналагічныя выданні іншых краін, напрыклад, ленінградскі маладзёжны літаратурны альманах. Ну вы можаце сабе ўявіць, каб увесь паэтычны раздзел альманаха быў прысвечаны адным толькі кошкам?! Адна кошка ў падвале, другая недзе на вуліцы і гэтак далей — усе ленінградскія паэты ўсё роўна як згаварыліся. Смешна? Смешна. Дык вось што можа застацца ад гэтак званага рэалізму. А мы вінаваціць у адыходзе ад сучаснасці "Першацвет", часопіс, які проста ні ў якае параўнанне не ідзе з тым, што я бачыў.

Параўноўваючы "Першацвет" з французскімі і нямецкімі выданнямі (і іх мне даводзілася праглядаць), гэтаксама не magу сказаць, каб тыя былі ў нечым вышэйшыя за наша. І не таму, што хачу захвальваць часопіс. Наадварот, я ахвотна далучаюся да ўсіх крытычных слушных заўваг, што прагучалі раней. Але ўсё ж такі не магу не парадавацца за гэтых слаўных хлопцаў і дзяўчат, за тое, што яны зрабілі і яшчэ зробяць...

Зоркі загараюцца і гаснуць... Няхай загараюцца! Помню, колькі было паэтаў у час маёй маладосці. Па-рознаму склаліся іх жыцці, далёка не ўсе яны сталі літаратарамі, але амаль усе засталіся ўдзячны і самой паэзіі, і колішняму творчаму сяброўству, і тым першым публікацыям. Я думаю, цэлыя пакаленні пісьменнікаў і паэтаў будуць удзячны "Першацвету"...

Вось такая атрымалася гаворка — крышку радасная, крышку трывожная, крышку сумбурная, а галоўнае, шчырая і нязмушаная. Добрая зацікаўленасць і неабыякавасць да самых маладых творцаў з боку старэйшых настаўнікаў сведчаць пра непарыўнасць літаратурнай традыцыі, невыпадзенне "Першацвета" з агульнага літаратурнага працэсу, пра заканамернасць з'яўлення часопіса і ягонай літсуполкі побач са з'яўленнем, напрыклад, ТВЛ... Карацей кажучы, тут, у Доме літаратара, "Першацвет" прызналі, палічылі сваім і благаславілі. А гэта не так і мала для маладога выдання.

Што будзе далей, сапраўды, пакажа час. А пакуль... Няхай шматкроп'е, якім заканчваецца выступленне С. Законнікава, будзе падставай для наступных гаворак і спрэчак.

**Мікола ЧЭМЕР,**
**наш спецкар.**

ЛіМ
ЧАСАПІС

# МЫ ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ...

**Спрабую акінуць позіркам мінаючы літаратурны год, спрабую вылучыць рысы, яму ўласцівыя.**

**Год пісьменніцкага з'езда? Дык на зары перабудовы звычайныя сходы мелі большыя вынікі і грамадскі рэзананс, таму ніяк не выпадае лічыць гэтую падзею вызначальнай.**

**Год спадзяванняў і ілюзій, звязаных з інстытутам прэзідэнцтва і першымі выбарамі? То пісьменніцкі народ у сваёй большасці наівам не вызначаецца і вялікіх надзей з новым рускамоўным "бацькам" не звязваў адпачатку.**

**Год прысуджэння Дзяржаўных прэмій? Тут спрадвек усё было непрадказальным. Няма такіх вагаў, што ўзважваюць меру таленту і ступень яго рэалізацыі, уплыў твора на людскую свядомасць, месца яго ў літаратурным кантэксце. А мы, пісьменнікі, так прагнем прызнання — амаль як артысты...**

***Літаратура, відавочна, не толькі творы,* але і тая нябачная аўра, якая атуляе пісьменніцкі свет і мае ўласцівасці кожнай асобы, што да гэтага свету спрычынілася. Адзінства нам толькі сніцца, рака Саюза пісьменнікаў працягвае мялець, разбівацца на руслы, рукавы, азярыны, і, падобна, ніякая высокая ідэя не ў стане з'яднаць гэтую шматаблічную, рознаскіраваную плынь.**

**Заваёва дэмакратыі — доўгачаканая свабода слова — не асабліва нам спатрэбілася. Ну, закляймілі сталінізм, памянулі ахвяраў, абнародавалі пару страшнаваценькіх біяграфічных фактаў... Мо свабода слова — фактар палітычны, сацыяльны, а не творчы? Кожны як пісаў на сваім узроўні, так і піша. Хіба што тэматычныя ўстаноўкі памяняліся ды няма каму размяркоўваць творцаў па гатунках (з-за чаго ў чытацкіх галовах поўная неразбярыха).**

**Навошта свабода слова, калі няма свабоды духу — мужнасці сказаць пладавітаму нязДару, што ён нязДар, прайдзісвету ад мастацтва — што ён прайдзісвет, калі няма рашучасці стаць на шляху нечых празмерных амбіцый ці хваравітых патрэб, не забяспечаных талентам і высакароднасцю чалавечых праяў?**

**Варта было гучна ганіць сістэму *ды прадстаўляцца яе ахвярамі, каб і сёння* па сем разоў адмерваць, не рэжучы, і задавальняцца роляй назіральнікаў!**

**Адзіны выпадак апошняга часу, калі пісьменнік ускіпеў, абурыўся, выказаўся публічна... з нагоды маючага быць папаўнення ў шэрагу народных. І адпаведны папрок: не тым жывяце, не пра тое думаеце... Такая любоў да ісціны мне падаецца не зусім платанічнай. У дачыненні да ўсяго, што нас асабіста не тычыцца, мы ці бываем алімпійцамі, ці мітынгуем у сяброўскім коле.**

**А што ж крытыка? У прысутнасці "голых каралёў" яна сарамліва апускае вочы долу, ды і пра апранутых піша ўжо рэдка і неахвотна.**

**...Уяўляецца добра-такі ўезджаны старасвецкі шлях. Па ім нетаропка едуць чатыры бухматыя важкія вазы — нашы тоўстыя літаратурныя часопісы і "ЛіМ". Адзін з вазоў мае прыцэпчык — літаратурны дадатак. Каляіны глыбокія, дзесяцігоддзямі выбіваныя, паспрабуй з іх выбрацца. Каб зусім ад вялікай "ліхасці" ў размяклай гліне не засесці...**

**А тут "Культура" па броўцы коціць, дарогі не выбіраючы, — уся ў замежных цэтліках легкавушка маркі "джып" (па-нашаму — "козлік"). Ззаду гудзе, разганяючыся, *новенькі матацыкл з каляскай* — "Першацвет". Воддаль — паралельна і з гучным клаксонам — энергічна рухаецца "Наша Ніва" — драндулет з кузавам пад рэтра, але з дужым сучасным маторам і без павагі да правіл руху.**

**Два пасажырскія аўтобусы паважна прастуюць па даўно зацверджаным маршруце (катэгорыя "Д" у вадзіцеляў).**

**Браты-малойцы асядлалі гоначную, дзіўнай канструкцыі машыну і толькі лепшых сяброў бяруць праехацца.**

**Дзіцячы веласіпедзік на трох колах весела шнуруе пасярод; у таварным стане, заўважце, і шарык да руля прывязаны...**

**Бадзёра падскокваюць яшчэ некалькі наваспечаных "Рафаў" і мотаблокаў. Ёсць нават адзін *спецаўтамабіль (не літаратурнага профілю)* на ўтрыманні ў аднаго спецфонду.**

**Нарэшце ўсіх абганяе крыху патрыманая іншамарка з мужчынскім дружным экіпажам. Запомнім гэты момант: новая "Крыніца" бярэ курс у будучую славу.**

**Вобраз каляіны нездарма ўзнік перад маім унутраным зрокам. Што памянялася ў нашых рэдакцыйна-выдавецкіх асяродках не з-за знешніх абставін, не вымушана, а па нашай уласнай волі, па жаданні штосьці палепшыць? Ці перагледжаны канцэпцыі, ці вызначаны шляхі далейшага руху, ці рэфармаваны структуры? Ці зроблена элементарнае: "пачышчаны" штаты, зліквідавана ўраўнілаўка ў аплаце? Дзе намаганні выбіцца з той самай спракаветнай каляіны, уплываць на грамадскую думку? Мне скажуць: ад нас няшмат залежыць, мы бюджэтнікі, царкоўныя мышы... Так, усё так... Ды каб за гэтай беднасцю не хавалася іншая — беднасць на творчыя ідэі, на ініцыятыву, на дзейснасць. Сядзець як мага цішэй і не разгойдваць лодку (даруйце, воз) — вось наш сённяшні грамадзянскі прынцып. Куды мы толькі з гэтым прынцыпам заедзем...**

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
рэдактар аддзела крытыкі і бібліяграфіі

Крытыка

# ДЫЯГНАЗ: СМУТА

Кнігу прозы, у якой сабраны гэткія розныя творы, як "аповесць-фантасмагорыя", "небыліца", апавяданні, адмысловыя прадмова і пасляслоўе, аб'яднаныя загалоўкам "Да магчымага чытача", рэцэнзаваць не так і лёгка. Галоўным чынам — з-за стракатасці "метадаў пісьма", г. зн. розніцы пабудовы фабулы і сюжэта, зменлівасці аўтарскай пазіцыі (няпэўнасці "вобраза аўтара" ў розных творах), дый няроўнасці "духу аўтара", які — дух — то праступае надта яскрава, то як бы расплываецца, адыходзіць на другі, трэці план, і за аўтара тады болей гавораць героі і сама структура твораў.

Вось гэтым нелітаратуразнаўчым крытэрыем — мерай прысутнасці духу — мне і хацелася б "памераць" другую кніжку прозы Андрэя Федарэнкі. Раблю гэта свядома, добра памятаючы, як ахарактарызаваў сваё творчае крэда пісьменнік: "Я прыхільнік чыстага, аб'ектыўнага рэалізму, і хачу, у меру сваіх здольнасцей, толькі "ставіць дыягназ". Я не выбіраў гэты метад неяк знарок, проста ён сам склаўся як найбольш адэкватны для майго мыслення..." ("ЛіМ", 9.04.1993). А як жа **інакш** асэнсоўваць **рэалістычныя** *творы* канца XX *стагоддзя*? Рэалізм — той мастацкі метад, што па вызначэнні змагаецца за жыццё і чалавека прыгожых і **прынцыпова верыць** у жыццё і ў чалавека, — сёння ніяк не можа паддацца "постмадэрнісцкаму" сцёбу: гэта прышэлец (у мастацкім сэнсе) з іншай эстэтычнай эпохі, з зусім другой мысліцельнай прасторы. І аднак жа мы, аматары гіперлітаратуры (тэрмін А. Геніса. Гл. часопіс "Иностранная литература", N 1, 1994), мусім прыняць яго ветліва, з належнай пачцівасцю, і паспрабаваць з р а з у м е ць, з якога матэрыялу і пры дапамозе якіх духоўных інтэнцый зроблены творы "дыягнастычнага рэалізму".

Адразу ж трэба было б адзначыць неймаверную цяжкасць мастацкай і мастакоўскай працы з г. зв. жыццёвай (а не літаратурна-культурнай) фактурай пры канцы XX стагоддзя: у часе татальнага распаду, дэсакралізацыі жыцця натуральнага, замены яго жыццём-падробкай, інфармацыйнай фікцыяй асмеліцца шукаць г а р м о н і ю ў **гэткім** жыцці — ці не донкіхоцтва гэта ў літаратуры? І аднак жа А. Федарэнка ўпарта дэкларуе **веру ў само жыццё**, якое яно ёсць; *у людзей, якія навокал. Ён не прагне,* не "лепіць" ідэалу, не турбуецца стварэннем "зборнага тыпу": бярэ з жыцця людзей такімі, якія яны ёсць (якімі іх зрабіла жыццё) — сялян, гарадскіх маргіналаў, студэнтаў, вайскоўцаў, *літаратараў*... З кожным яго героем — нейкае перажыванне, пераважна цьмяны, цяжкавымоўны боль, альбо страшны, "чорны" гумар. На мой погляд, найлепш гэты "маргіналізаваны эпас" перададзены ў "*малой прозе*" А. Федарэнкі — невялічкіх па аб'ёме апавяданнях. Малы памер прасторы тэксту перасцерагае пісьменніка ад непрадуктыўнага раскручвання сюжэта, ператварэння добротнага рэалістычнага аповяду ў нешта штучнае, сапраўды "фантасмагорыю" (непрыдатнасць авантурна-дэтэктыўнай манеры выказвання пры федарэнкаўскім **мысленні** засведчыла, на мой погляд, і нядаўняя яго рэч — аповесць "Ланцуг", "Маладосць" N 9, 1994).

Апавяданні "Пеля", "Адзін летні дзень", "Бляха", улучна з пасляслоўем — на мой погляд, лепшае, што ёсць у гэтай кнізе. Лепшае, бо не пазначана пячаткай наўмыснай настальгіі па "мінулым", па яго ідэалагічных і побытава-матэрыяльных знаках. Калі на тое пайшло, то "Бляха", можа быць, — адзінае чыста рэалістычнае апавяданне (прынамсі, па фактуры тэксту) з усяго збору, апавяданне чарнобыльскае... Менавіта гэтае апавяданне найлепшым чынам паказвае, што ніякія гульні з формай для Федарэнкі не патрэбны і нават шкодны: аўтар мусіць завіхацца над дэкляраваным "чыстым рэалізмам".

Тое ж самае можна сказаць адносна "меры духу". Калі аўтар аддаецца на волю прымітыўных савецкіх рэфлексаў і *маргінальнага досведу "старэйшых" (і ў жыцці, і ў літаратуры)*, то як аўтар ён, нягледзячы на "палёты формы", зазнае паражэнне. Як аўтар ён тады — **за** тэкстам, яго, аўтара, амаль не чуваць, чуваць — эпоху... Але тут ужо як каму *лацвей. Для мяне пэўна адно:* каб крытыка надалей казала пераважна пра э с т э т ы к у Андрэя Федарэнкі, а не рабіла закіды наконт ідэалогіі і маралі, аўтар і павінен пазбавіцца залежнасці ад каштоўнасцей звонку, у знешнім, г. зн. павінен перастаць давяраць жыццю абсалютна. У **такім** (сённяшнім) жыцці н я м а Боскай ісціны; застаецца толькі адна, пэўная крыніца ісціны — душа пісьменніка. Можа, у тым, вышэйзгаданым пісьменніцкім прызнанні — "толькі ставіць дыягназ" — на ўвазе неўсвядомлена якраз і маецца д у ш а т в о р ц ы, што ўсе болі свету акумулюе праз сябе ў мастацкую матэрыю — тэкст?.. Праўда, пры такім разуменні "метаду пісьма" як быццам знікае і "рэалізм": застаецца мастацтва.

**Юрась ЗАЛОСКА**

*Федарэнка А. Смута: Аповесці, апавяданні. Мн., "Мастацкая літаратура", 1994.*

Часопісы ў лістападзе

# КАЛІ ЗНОС — СТРАШНА...

Апавяданні А. Асташонка, бадай, заўсёды прыцягваюць пільную ўвагу чытачоў. Так было, скажам, калі ў "Полымі" друкавалася яго апавяданне "Тара", у якім аўтар зазірнуў у душы тых, каго спакусіў "зялёны змей",ператварыў у сваіх палоннікаў. І вось у тым жы "Полымі" — чарговае апавяданне, якое прымыкае сваёй тэматыкай і праблематыкай да папярэдняга — "Знос". Зноў у цэнтры ўвагі А. Асташонка тыя, хто, апусціўшыся аднойчы, няздатны падняцца, для каго ўвесь белы свет сышоўся на тым каб знайсці чарговую чарку, а назаўтра своечасова пахмяліцца. Пісьменнік прымушае зазірнуць на "дно" нашага грамадства. Ды самае страшнае ў тым, што гэтае "дно" не дзе-небудзь, не схавана ад людзей, а — навідавоку. Хіба не сустракаем мы поруч з сабой усіх гэтых пракопаў, матросаў? Хіба не чулі пра раннюю, недарэчную смерць цюляў, цыпаў, усіх тых, хто са сваімі ўласнымі імёнамі і прозвішчамі даўно ўжо не ўспрымаецца. Аўтар менш за ўсё клапоціцца, каб заглыбіцца ў свет (а мо антысвет?) тых, пра каго расказвае. Ён быццам нават і не ставіць перад сабой такой задачы — проста расказвае і ўсё... Чаму ж у такім разе пачутае ад яго гэтак бярэ за душу? Бярэ і ўражвае сваёй аголенай праўдай. І адначасова гідкасцю. І разам з тым — душэўным болем... За іх, каму наўрад ці стаць ранейшым — добрым, шчырым... А таму, на маю думку, што ў дадзеным выпадку цудоўна спрацоўвае акурат тое, ад чаго крытыка (і не без падстаў) перасцерагае пісьменнікаў: моцная прыверджанасць да дакументальнай асновы. Нібы перад намі — нарыс. А яшчэ паўстае "фізіялогія" самога падзення чалавека. Паступова, спакваля прасочваецца. І не па ходзе дзеяння, а праз свайго роду аўтарскія адступленні. І зусім не праз рэтраспекцыі свядомасці галоўных персанажаў. Ім, Матросу і Пракопу, зусім не да гэтага, каб "корпацца" ў самім сабе. Ім бы пахмяліцца, а ўсё астатняе, кажучы словамі таго ж Пракопа — "смецце грузіць".

Сам жа пісьменнік, як гэта часта бывае ў *падобных творах, не спяшаецца станавіцца* маральным суддзёй. Ён толькі інфармуе чытача, але гэта тая інфармацыя, што дае куды больш, чым уяўнае маралізатарства, ці прагматычная зададзенасць. Расстаўляць кропкі над "і" А. Асташонку акурат і няма патрэбы. Адзінае, што можна яшчэ зрабіць, дык паспрабаваць разабрацца, як дайшлі яны да таго, да чаго ішлі. А гэта аўтар і дазваляе зрабіць нам, чытачам, праз канстатацыю таго, што было і што ёсць: "Пракоп з маленства — шаленец. Бацька лупіў залішне, а нарэшце закрыў, як леглі спаць, да пары юшку — і ўчадзелі ўсе. Матка Пракопава й сам стары сканалі, бо яшчэ й напітыя былі, а ў Пракопа вось рукі, нат як не п'е, ад тае пары калоцяцца... Колькі Пракоп пра тыя свае рукі, праз іх заўсёдны калатун, у інтэрнаце напакутаваў — і Насосам, і Піяністам дражнілі, — дзе ж тут не зап'еш яшчэ маладзёнам? *Імені мо ягонага й не ведалі ў тым* інтэрнаце. А на вуліцы яго Пракопам з-за прозвішча клічуць — Пракаповіч ён".

Быццам нейкая наканаванасць лёсу вісіць над Пракопам з маленства. У калонію трапіў за бойку яшчэ ў дзесятым класе, а пасля як ні сіліўся на ногі "ўстаць", ужо не мог. Была армія, завод, а пасля "зашыўся ў квадраце "хата — піўнуха — "овощняк" — крама". "Зашыўся", бо з завода выгналі за п'янку.

Гэта Пракоп, а Матрос? Таксама сядзеў, толькі за крадзеж... Падобнасць лёсаў... Тое ж самае можна сказаць, за рэдкім выключэннем, і пра іншых пракопавых і матросавых сяброў. Хто з іх на тым свеце, хто гэтаксама дажывае свае дні, а што яны будуць кароткімі, сумнявацца не даводзіцца, бо — у беспрабудным п'янстве. Цэлая вуліца — непрыкаянцаў.

У чым жа прычына? А тлумачэнне трэба шукаць у самой назве апавядання — "Знос": "Тады якраз, годзе недзе ў семдзесят восьмым, на вуліцы ўпершыню аб'явілі пра блізкі знос. Вось ён (Пракоп. — **М. А.**) і вырашыў, як яго выгналі за запоі з завода, што не варта нікуды ўладкоўвацца, пакуль не пераедзе ў "гарадскі" дом. Так і прачакаў усе гэтыя гады зносу. Зрэшты, уся вуліца чакала зносу, але Пракоп у чаканні сваім быў самы цярплівы".

Знос — паняцце вельмі шырокае і ёмкае. Знос — гэта і ўсе нявыкруткі нашага ўчарашняга (пра што мы любім гаварыць) і сённяшняга (аб чым часта яшчэ маўчым) жыцця. Ці не кожны чакае нечага таго, што абавязкова перайначыць яго лёс. Прытым перайначыць у лепшы, вядома, бок. Адны на прэзідэнта спадзяюцца, другія — на дэмакратаў, трэція — на Народны фронт, у чацвёртых панацэя ад усяго *— прыход да ўлады камуністаў. Пятыя...*

Быццам зачараванае кола атрымліваецца. Круціцца і круціцца яно бесперапынку, але ніхто, ніводзін чалавек не жадае прыйсці да адзінай і ўвогуле правільнай высновы: што трэба нешта рабіць самому. І рабіць так настойліва, каб перасіліць наканаванасць і лёсу ўласнага, і лёсу агульнага. Інакш "знос" на ўсе астатнія дні. Вечны "знос"... Для кожнага паасобку і для ўсіх разам.

Вось пра што апавяданне А. Асташонка. Напісанае, здавалася б, вельмі проста, чымсьці нарысова і — таленавіта. А ўрэшце — гэта даўно заўважана — талент заўсёды непрадказальны, і не ведаеш, дзе чарговым разам ён лепш за ўсё раскрые сябе.

"Верагодныя запісы" (аўтарскае вызначэнне жанру) М. Лужаніна "Бог ходзіць па зямлі" ("Полымя") — таксама жаданне аўтара разабрацца, *што адбываецца з намі і нашым* краем. Пошукі адказу вядуць паэта да спаконвечных ісцін хрысціянскай маралі. Вяртанне да Бога — не даніна модзе, як гэта сёння назіраецца даволі часта, а душэўная патрэба. Роздум М. Лужаніна ўсхваляваны і заклапочаны, трывожны і прасветлены. Так у кожнага, калі ён доўга шукае нейкага выйсця і раптам аказваецца, што яно — поруч. Нешта падобнае адбылося і з лірычным героем М. Лужаніна, які, толькі паразмаўляўшы з Богам, зразумеў многае з таго, пра што было забыўся, а нешта і зусім адмаўляў. У такім разе кажуць: лепш позна, чым ніколі.

Элегічны настрой у нізцы С. Грахоўскага "З недапісанай кнігі" ("Полымя"), да якой аўтар вынес *радкі-ўдакладненне*: "Яе, напэўна, за мяне і вас дапіша нехта ў лепшы час". Зноў роздум над вечным і загадкавым. Здавалася, знаёма ўсё. Ды гэта як той першы снег... Чым больш сталееш і старэеш, тым больш радуешся яго чысціні і белізне, яго нерушавасці:

**Між пальцамі прасочваецца час:**
**Плывуць хвіліны, як сухое зерне.**
**Як ні трымайся, але нас**
**Назад ніколі і ніхто не верне.**
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
**Не ведаем, чыя заслуга ці віна,**
**Што ўсё мінае і сысці павінна**
**Апошняя хвіліна. Вось яна,**
***А для кагосьці — першая хвіліна.***

Змястоўнымі атрымаліся публіцыстычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы "Полымя". Артыкул М. Хаустовіча "Ля вытокаў беларускае ідэі" — асэнсаванне некаторых аспектаў уздыму беларускага руху ў мінулым стагоддзі. Найперш у цэнтры ўвагі аўтара воблік Я. Баршчэўскага — пісьменніка, значнасць укладу якога ў развіццё нашага прыгожага пісьменства, думаецца, яшчэ як след не ацэнена. Хоць апошнім часам тут і адбыліся прыкметныя зрухі. А. Грынь і У. Міхнюк ("Следству вядома..."), абапіраючыся на архіўныя матэрыялы, што захоўваюцца ў КДБ, прасочваюць лёс Антона Сокал-Кутылоўскага, аднаго з барацьбітоў супраць бальшавізму, за незалежнасць Беларусі. І. Навуменка завяршыў кнігу пра

# ЗНАЁМСТВА АДБЫЛОСЯ

Упершыню ў нашай рэспубліцы ў Доме літаратара напачатку снежня адбылася сустрэча з сучаснай ізраільскай паэзіяй. На вечары, арганізаваным пасольствам дзяржавы Ізраіль, гучала музыка высокай паэзіі адной з найстаражытных моў свету — іўрыта.

Адкрыў сустрэчу першы сакратар пасольства Міхаэль Рынат. А потым ізраільскі паэт і перакладчык Уладзімір Глозман разгарнуў перад слухачамі панараму развіцця іўрыцкай паэзіі з часоў Бібліі і да дзён сённяшніх. Упершыню беларускія аматары паэзіі змаглі пачуць і сапраўднае гучанне вершаў, якія чытаў сам У. Глозман, і іх пераклады ў цудоўным выкананні акцёраў Валерыя Анісенкі (ён жа і рэжысёр-пастаноўшчык літаратурнага вечара), Аляксандра Уладамірскага і дыктара радыё Ірыны Маісеевай.

Лірычная паэзія Леі Гольдберг і Рахель, вершы Шаўля Чарняхоўскага (які пераклаў на іўрыт Гамера) і Аўраама Шлёнскага (перакладчыка Пушкіна і Шэкспіра), Давіда Фогеля і Натана Альтэрмана, Хаіма Гуры і Егудзі Аміхая, — вось далёка не поўны пералік іменаў ізраільскіх паэтаў, што гучалі ў гэты вечар.

На сустрэчы прысутнічалі Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін, які прачытаў некалькі ўласных перакладаў буйнейшага ізраільскага паэта Хаіма Нахмана Бяліка з кнігі перакладаў "Мой сад", што рыхтуецца да выдання. Гучала і ізраільская музыка ў выкананні віяланчэліста Алега Алоўнікава (канцэртмайстар Ала Данцыг) і піяністкі Ірыны Целяпнёвай.

"Перакуем аралы на трамбоны ды геліконы" — гэтыя радкі ізраільскага паэта Егудзі Аміхая могуць стацца дэвізам знаёмства з творчасцю дзеячаў ізраільскай культуры, знаёмства, якое спадзяецца прадоўжыць у далейшым пасольства Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь.

**І. ГУРАРЫЙ**

жыццёвы і творчы шлях З. Бядулі. Увазе чытача прапануецца раздзел "Ранні Бядуля". З яго добра бачна, як адбывалася станаўленне таленту аднаго з самых цікавых нашых пісьменнікаў, як фарміравалася яго творчая індывідуальнасць. Зноў жа і З. Бядуля пакуль належным чынам не ацэнены, а ён, між тым, належыць да слаўнай кагорты пачынальнікаў беларускай літаратуры.

Аддаючы належнае апавяданням Л. Левановіча, аповесці А. Казлова "Незламаная свечка", дэтэктыўнай аповесці Ф. Сіўко "Захапленне бухгалтара Кавальчука", паэме А. Лойкі "На залатым перазове", як і іншым матэрыялам, змешчаным у часопісе "Маладосць", усё ж раю спачатку звярнуць увагу на артыкул А. Баркоўскага і А. Карлюкевіча "Беларускі адраджэнец з... Якуцка". Гаворка ідзе пра заўчасна памерлага Івана Ласкова, чыю творчасць чытач, прынамсі, добра ведае і па лімаўскіх публікацыях. У асноўным пра апошнія месяцы яго жыцця. Аказваецца, супраць надзіва сумленнага пісьменніка ў Якуціі была распачата самая што ні ёсць траўля. Менавіта так былі сустрэты матэрыялы Ласкова, у якіх ён сказаў праўду пра аднаго з класікаў нацыянальнай літаратуры, які зламаўся ў сталінскіх засценках. Такой праўды аўтару не маглі даравашь. Праследаванні і звялі яго заўчасна ў магілу.

У "Маладосці" Г. Багданава выступае з эсэроздумам "Тры вечары з Масеем Сяднёвым". Спалучаюцца развагі пра творчасць гэтага слыннага прадстаўніка беларускага замежжа з гутаркай з ім. А ў выніку Масей Ларыёнавіч становіцца яшчэ больш зразумелым сучаснаму чытачу, а яго паэзія — бліжэйшай.

Сталыя чытачы "Нёмана", бадай, запомнілі спецыяльныя выпускі часопіса (люты 1992 года, люты 1993 года), у якіх многія матэрыялы былі аб'яднаны Коласавымі словамі "Куды не траляць беларусы...". "Нёман" працягвае знаёміць з жыццём беларускага замежжа. Гэтым разам шырока ахоплена Беласточчына. У перакладзе на рускую мову прадстаўлены творы Н. Артымовіч, А. Барскага, Я. Чыквіна, В. Шведа, С. Яновіча, М. Лукшы. Друкуюцца артыкул У. Калесніка "Блізкасць далёкага" — пра літаратуру гэтага рэгіёна, раздзелы з кнігі А. Мірановіча "Беларусы ў Польшчы. 1944—1949" пад загалоўкам "Выбар веры і лёсу", "старонкі гайнаўскага блакнота" А. Кукевіча "Гасцяванне каля "ўсходняй сцяны", фотарэпартаж "Свой дом, свая зямля".

У "Беларусі" ж — гутарка Я. Конева з рэктарам інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры У. Скараходавым "Кардынальных зрухаў у культуры няма. Ёсць аб'ектыўны працэс прыстасавання да новых умоў жыцця", публіцыстычны роздум Т. Бондар "Свабода выбару ці свабода ад выбару?". Багатая падборка шагалаўскіх матэрыялаў (жыццяпіс творцы, урыўкі з літаратурнага дзённіка Д. Сімановіча "Віцебск, Марк Шагал і таталітарная сістэма", артыкул В. Аксак "Першы міжнародны пленэр імя Марка Шагала ў Віцебску")...

**М. АНДРЭЕНКА**

Віншуем!

# "КОЖНАЯ СУСТРЭЧА — БЫЦЦАМ ПЕРШАЯ..."

***І студзеня ў вядомай паэтэсы, празаіка, публіцыста, галоўнага рэдактара газеты "Культура" Вольгі Іпатавай — юбілей. Віншуем Вольгу Міхайлаўну, жадаем ёй і надалей заставацца гэткай жа маладой, прыгожай, творча актыўнай і няўрымслівай!***



Сустракаемся мы з ёю чамусьці неяк рэдка.

— Ну як жывеш, даражэнькі? — пытаецца з нязмушанай цікаўнасцю і нейкай вельмі ж шчырай прыязнасцю.

— Жыву...

Пра нешта гаворым — пра сонца, надвор'е, настрой... Не чапаем палітыкі. Не жалімся на згрызоты і бядоты. Некуды чамусьці кожны раз спяшаемся.

А ў памяці надоўга застаецца гэты годнапрыгожы тварык і не менш вабная, пяшчотная, нейкая гаючая ўсмешка...

А колькі ж балючых, несуцешна-горкіх і невыносна-цяжкіх выпрабаванняў паслаў ёй лёс на самых першых гадочках яе жыцця. У чатыры гады памірае мама, у адзінаццаць давялося пайсці і ад бацькі.

**Не маці ў інстытут праводзіла мяне,**
**Зрабіўшыся ад шчасця маладой,**
**Узрушана ў той вечар зазвінеў**
**Каля вагона ўвесь дзіцячы дом.**

Нарадзілася на Новы год — яшчэ страшэнна цяжкі, але ўжо пераможны 1945 год — у даволі цывілізаваным гарадскім пасёлку Мір у сям'і служачых. Але ўжо ў адзінаццаць сваіх гадкоў вымушана апынуцца ў дзіцячым доме (1956—1961 гг.). У шаснаццаць год заканчвае школу ў Гродне і паступае на філфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Але ўжо ў 1963 годзе вымушана перайсці на завочнае аддзяленне. Скончыўшы ў 1967 годзе універсітэт, трапляе ў вясковую школу ажно на Віцебшчыне.

Потым было многае.

Праца таваразнаўцам у Віцебскім абласным кнігагандлі (1964), інструктарам, а пазней загадчыкам сектара ў Гродзенскім абкоме камсамола (1965—1968), рэдактарам на абласной студыі тэлебачання (1968—1970). З 1970 па 1973 год яна — літсупрацоўнік газеты "Літаратура і мастацтва", затым — літкансультант "Чырвонай змены". У 1975—1978 гадах — аспірантка Літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага ў Маскве, пасля чаго — зноў літкансультант "Чырвонай змены" (1978—1979). З 1985 па 1989 гады — галоўны рэдактар літаратурнадраматычных перадач Беларускага тэлебачання, з 1989 года — загадчык аддзела, а з 1990 года — намеснік галоўнага рэдактара новага часопіса "Спадчына". Апошнім часам — галоўны рэдактар газеты "Культура".

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1970 года, хоць друкуецца з... 14 гадоў (1959). Першую кніжачку паэзіі "Раніца" памерам у 1,5 друкаванага аркуша асмелілася выпусціць у свет ажно ў 1969 годзе.

Гартаю тую першую кніжачку.

Ведаю, што паасобныя нашы "постсавецкія" аўтары-"адраджэнцы" і некаторыя чытачы з'едліва ўсміхнуцца, прачытаўшы ну хоць бы вось такое:

**Але навек адзін звязаў нас лёс,**
**Як ніткаю грыбной баравікі...**

Гэта, зрэшты, пра бацьку, пры якім давялося ісці ў дзіцячы дом.

Мяне ж і цяпер да глыбіні душы кранаюць такія, скажам, "няхітрыя" радкі:

**Руды узгорак над маёй шчакой**
**Здаецца мне каровы цёплым бокам...**
**...А зямля так даверліва, проста**
**У сваім харастве паўстае,**
**Што здымаю з ног "шпількі" вострыя.**
**Незнарок не ўкалоць бы яе...**
**...Туманы, як мядзведзі калматыя,**
**Дапаўзаюць да лесу крадком...**

"Ліпеньскія навальніцы" (1973), прызнаюся, спаталяюць душу радзей. Згодны з нечымі праўкамі (здаецца, рукою Р. Барадуліна) у гэтай не нашмат большай кніжачцы (2,5 друкаваных аркуша), узятае з нашае выдавецкае бібліятэкі. Але ж колькі тут захопленых, шчырых, дзеля сябе зробленых "плюсаў".

Ну сапраўды ж...

**Ляжала мёртвая маці**
**Ля хутара Альтэнштос,**
**Дзіця загарнуўшы ў халацік**
**З канцлагерных сініх палос.**

Ці такое хоць бы зусім іншае, але такое пераканаўчае:

**Завіруха імклівых лістоў.**
**Такі халодны асенні вечар!**
**Я рукі грэю пад тваім пальто —**
**Якія цёплыя ў цябе плечы!..**

Дазвольце яшчэ адну цытату:

**Скубе спакойна мокры конь траву,**
**І сонца звечарэлае садзіцца.**
**І думаю — якое гэта дзіва —**
**Вось для такой хвіліны я жыву...**

Бог таму сведка — хіба ж не дзеля такіх хвілін і варта нам жыць?!.

А потым была яшчэ адна невялікая паэтычная кніжачка, якую яшчэ больш хочацца цытаваць ("Парасткі", 1976).

*Далучаюся шчыра да слоў І. Шамякіна* (гл. "ЛіМ" ад 6 мая 1994 года): "Добрыя паэтэсы Валянціна Коўтун, Вольга Іпатава", якія "пераключыліся на прозу. Дай Бог ім удачы".

І ўсё ж шкадую, што ажно з 1976 года не чытаю больш паэзіі Вольгі Іпатавай (можа, што дзе і было, ды прапусціў...).

Стаміўшыся душою ад бясконцых просьбаў, грозьбаў, праклёнаў і нават даносаў "у інстанцыі" — і што цікава: ніводнага разу ад жанчын! — з нагоды перавыдання сваіх "эпахальных" твораў ад многіх аўтараў, я вельмі і вельмі дзівіўся (і нават не зусім разумеў) нейкаму дзіўнавата спакойнаму, ледзь не раўнадушнаму яе стаўленню да перавыдання сваіх лепшых празаічных твораў у даволі прэстыжнай, як мне здаецца, серыі "З вякоў мінулых".

І вось яна — ляжыць перада мною на рабочым стале — першая карэктура гэтае кнігі "Чорная княгіня", у якую аўтар уключыў толькі аповесці "За морам хвалынскім" і "Чорная княгіня" і ўсяго тры апавяданні ("Гайна і Мікаш", "Мара" і "Давыд Гарадзенскі").

Калі б я пісаў рэцэнзію і калі б нават быў такі разумны, як адзін з самых блізкіх майму сэрцу сяброў Уладзімір Конан, то не сумеў бы, як некалі ён, так віртуозна абысці пэўныя "вострыя вуглы" ў прозе В. Іпатавай, хоць там сапраўды — асабліва ў навелах — шмат вартага нашае шчырае чытацкае ўдзячнасці. Я вельмі згодны, што яе проза — проза "маральнага эксперымента" і што пры "пэўнай зададзенасці характараў, меладраматызме асобных сцэн", нас многае і цяпер уражвае і найперш — "уменне аўтаркі маляваць словам".

Сапраўды, хіба ж гэта мала для прозы?..

І таму я так шкадую, што ўжо столькі гадоў як яна адышла ад паэзіі (а яна і ў прозе — паэт, а не нейкая там выдуманая нашымі "адраджэнцамі" "паэтка"...).

Спраў у яе, зрэшты, хапае.

Чаго вартая адна толькі яе рэдактарская работа ў газеце "Культура", якая — цалкам згодны! — "імкнецца даказаць, што беларускай мове падуладныя найтанчэйшыя адценні сучаснай філасофскай і культуралагічнай думкі".

Не ведаю, ці многа ляжыць у яе рабочым стале. Але і гэтае крыху ўжо задоўгае маўчанне прываблівае на фоне таго "скараспелага", што бясконца валакуць у рэдакцыі і часопісы нашы куды менш сарамяжлівыя і нястомныя "аксакалы"...

Згодны з К. Тарасавым, што наша гістарычная літаратура "ідзе па паверхні гісторыі" (не кажу ўжо пра натужлівую міфалагізацыю яе) і што В. Іпатава "працуе на пашырэнне нашага гістарычнага далягляду".

"Жанчыне, — заявіла неяк гадоў з сем назад (гл. "Беларусь", 1987, N 3) В. Іпатава, — пісаць нялёгка яшчэ і па той прычыне, што крытыка падчас і не прад'яўляе ёй асабліва высокіх патрабаванняў".

Што да патрабаванняў, то варта ўспомніць тую дваццацігадовай даўнасці рэакцыю на апублікаваную галоўным рэдактарам "Маладосці" А. Асіпенкам яе зусім як на цяперашні час бяскрыўднай аповесці "Прадыслава" — тут была і разгромная рэцэнзія самога Абэцэдарскага, і спецыяльнае пасяджэнне секцыі атэізму пры ЦК КПБ, і шматлікія лісты пакрыўджаных пенсіянераў...

Такі ці інакш, а хочацца ўсё-такі папрасіць мілую Вольгу Міхайлаўну не трымаць далей тое, што пісалася "ў стол".

Пра многае хацелася б сказаць.

Ну хоць бы пра тое, што бадай як у ніякай больш-менш вядомай мне літаратуры няма столькі прыгожых і разумных жанчын, як менавіта ў нашай літаратуры. Ці не ў гэтым зарука, што яна ўсё-такі будзе жыць?..

Пагартайма даведнік "Беларускія пісьменнікі" (Мн., "Мастацкая літаратура", 1994 г.), дзе паказаны 73 жанчыны (а калі прыплюсаваць і тых, хто не паспеў туды трапіць?), без большасці з якіх проста нельга ўявіць нашу Літаратуру.

І адна з самых знакамітых сярод іх — Вольга Міхайлаўна Іпатава, юбілей якое мы адзначаем.

Можна бясконца гаварыць пра яе. Але скончыць мне хочацца словамі Еўфрасінні Полацкай з яе аповесці "Прадыслава":

"Людзі думаюць, што я адвеку была кніжніцай. Толькі ёю. О не! Я акрамя гэтага нарадзілася з гарачай крывёю і палкай душою жанчынай. Я толькі змагла асіліць сябе, змагла схаваць у душы ўсё гэта. Змагла дзеля адзінай мэты — служэння свайму народу".

З юбілеем цябе, мілая Вольга Міхайлаўна!

Ад твайго імя і ад свайго — раз ужо выпала такая нагода — павіншуем усіх тых, каго мы без экзальтацыі, але так шчыра любім, усіх нашых дарагіх беларусаў з Новым годам. Хай жа ўсім нам хоць крышачку стане на душы добра ў наш нядобры час.

Хай жа Бог дае нам здароўя і шчасця!

**Генадзь ШУПЕНЬКА**

# ЗАПРАШАЕ ДОМ ЛІТАРАТАРА

**3 студзеня** ў 13 гадзін пачынаецца навагодняя батлейка для дзяцей. У гэты ж час, толькі **13 студзеня,** пройдзе сустрэча дзіцячых пісьменнікаў са школьнікамі — "Свята новых кніжак".

Астатнія мерапрыемствы месяца пачнуцца традыцыйна ў **18 гадзін 30 мінут.**

**4 студзеня** — творчая вечарына Вольгі Іпатавай "Мой лёс пралёг праз вашыя дарогі".

**11 студзеня** — прэм'ера мастацкага фільма рэжысёра Ігара Дабралюбава "Эпілог" па творах Івана Шамякіна.

**17 студзеня** — творчая вечарына паэта Васіля Карпечанкі "Я людзям радасці хачу".

**20 студзеня** — вечарына Наваполацкага літаратурнага аб'яднання "Крыніцы".

**27 студзеня** — вечарына, прысвечаная 50-годдзю часопіса "Нёман".

**31 студзеня** — магчымасць паразважаць, як выконваецца Закон аб мовах. Пяць гадоў з дня прыняцця яго. Але ці ўсё зроблена? Адным словам — запрашэнне да размовы "Чаго вам хочацца, панове?".

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ



# "СРЭБРА ЗЯЛЁНАЙ ТРАВЫ"

●

Восеньскі одум бусла.
Каліва светлай самоты.
Ціха ў душы ажыла
Згаслая
некалі
нота.
Срэбра зялёнай травы.
Думных лясоў пазалота.
Жораў у небе сівым —
Ціхая
чыстая
нота.
Востры халодны скавыш.
Рэшта апошняй пяшчоты.
Дзякуй, што ты не маўчыш,
Ціхая
чыстая
нота.

●

У маленстве —
белы снег.
У юнацтве —
чысты смех.
У маленстве —
нядзеля.
У юнацтве —
надзея.
Чыста было
ад снегу.
Светла было
ад смеху.
Дзе снег,
нядзеля?
Дзе смех
падзелі?

## СУЧАСНЫ СОН НА АНТЫЧНЫ СЮЖЭТ

Мне данайцы
прыносяць дары,
Мне кажуць данайцы:
"Бяры!"
І хоць добра
я знаю Данаю,
І хоць знаю,
з кім справу я маю,
Я дары
у данайцаў прымаю,
Я дары
у данайцаў бяру,
Сваё "дзякуй"
я ім гавару,
Бо адмовіць
я ім не умею,
Мне адмовіць
няёмка ім неяк.

●

...А неба, паверце, праясніцца
І сонца нарэшце вернецца.
Я не стану ні кляцці, ні клясціся
Ні ў любові, ні ў вернасці.
Няхай лёкай галёкае
Ды над місай павісквае.
Ёсць замежжа далёкае
І замежжа ёсць блізкае.
Мне ж да скону спрадвечнае,
Невымоўнае, кроўнае,
Шлях бярозамі мечаны
Ды яшчэ тая рэчанька,
Тая рэчанька, што няпоўная...

●

Дурань Іван,
Дурань Іван,
З табою не сумна.
Дурань Іван,
Дурань Іван,
Ты самы разумны.
Дарога налева
Звядзе з каралевай,
Дарога направа
Далучыць да славы.
Давай пасябруем,
Іван,
Давай павандруем,
Іван...

## ЛІПЕНЬ

Узмакрэлы і босы,
Бронзавы ад загару,
Стомлены сенакосам,
Ліпень прылёг памарыць.
Мёдам на ўсю Еўропу
Пахнуць стагі і копы.

●

Думкі-мары, думкі-крозы...
Пацалункі на марозе.
Нас апошнія трамваі,
Як заўсёды, падбіраюць.
Гаспадыня зыркне грозна,
Гаспадыня скажа: "Позна".
Як учора, як заўчора,
Пракаўтну я моўчкі сорам,
А назаўтра зноўку скверы
Мы з табою станем мераць.
Як учора, як заўчора,
Зноў чытаць мы будзем зоры.
Гаспадыня ля парога
Зноў мяне сустрэне строга.
Гаспадыня... Кухня... Проза...
Пацалункі на марозе.

●

Куды прападае
Шчырасць,
У які адлятае
Вырай?
А, можа,
Зусім не ў вырай,
А, можа,
Ты проста... вырас?

●

Дождж — мой даўні калега,
Мой сааўтар элегій,
Уначы нашаптаных,
Недасланых каханай:
Раўнадушнай паперы
Мне іх страшна даверыць...

●

Бяжым... Імчым...
Метро... Аўто...
Трава маўчыць
Аб чым?
Шапоча дождж
Пра што?
І я, і ён, і ты,
І тая з тым,
І з тою той...
Папутнікі
Куды?
Пакутнікі
За што?

●

Скупая графіка зімы,
Работа, створаная Богам,
Усё узвышана і строга
Ў суровай графіцы зімы.
Ці не таму каля парога
Дыханне зноў стаілі мы:
Работа, створаная Богам,
Скупая графіка зімы.

●

У ружовым садзе
Варажылі пчолы.
У ружовым садзе
Быў і я вясёлы.

У зялёным садзе
Я шукаў жар-птушку.
У зялёным садзе
Я надзеі гушкаў.

У апалым садзе
Адвячорак сцюжны.
У апалым садзе
Адспявалі птушкі.

Проза

Алесь АСТАШОНАК

# ЖОНКА АРТЫСТА



КАНСПЕКТ

*МІЛЕ*

Музыкант іграў на гітары ў сярэдняга кшталту рэстарацыі, як па вялікім рахунку, дык "зачуханай". Зала была вечна ахутана шызым дымам, які зусім не нагадваў дымы Эліса Купэра, ці не кожны другі наведнік быў у канцы вечара п'яны, што цэп, кожны пяты лез да музыкаў са сваімі заказамі, шлягерамі сённяшнімі й заўсёднымі, і музыканты не толькі цярпелі ўсё гэта, але й з разуменнем і прыязнасцю ўсміхаліся. У музыкаў гэта быў і лёс, і хлеб. Усе яны былі маладыя, спакваля мяняліся, сыходзілі, адыходзілі, прыходзілі, пераходзілі, а адзін — спачатку саракагадовы, а потым ужо і пяцідзесяцігадовы, сівы, з прыкметнымі зморшчынамі — заставаўся. Ён перажыў ужо некалькі складаў свайго гурта. Звалі яго Джані: музыка пачынаў на хвалі папулярнасці італьянскага спевака Джані Марандзі і, як кажуць "лабухі", здымаў яго. Мінуў ужо час "Бітлз", "Ролінг Стоўнз", "Лэд Зэпэлін" і многіх, многіх іншых, што былі пасля іх і не такіх вечных, як гэтыя, а музыка заставаўся — і заставаўся для заўсёднікаў Джані. Ён заўжды ўсміхаўся — не весела, не сумна, а неяк нутром, засяроджана, сам з сабою, бо заўсёды быў адно з музыкай ды партнёрамі, якія дапамагалі яму жыць у ёй і якім дапамагаў у гэтым ён сам — тут ён вельмі часта памыляўся, бо многія з іх толькі зараблялі грошы і былі абыякавыя, раздражнёныя і музыку ўжо даўно не любілі. Наведнікі стваралі ўсяго толькі фон. Гэты фон дапамагаў яму яшчэ больш адчуць сябе музыкантам. Артыстам. Сам Джані называў сябе артыстам, бо вельмі любіў французскую мову — на якой, праўда, спяваў толькі песні Джо Дасэна, — а па-французску "un artiste" азначае "мастак" — у агульным сэнсе гэтага слова. "Я артыст", — з гонарам казаў ён. Да Джані гэтак прывыклі, што ўзрост ягоны даўно ўжо здзіўляў адно выпадковых наведнікаў. Джані зрабіўся адметнасцю рэстарацыі. Яе прынадаю. Фірмовым знакам. На яго хадзілі. Як ходзяць дзесьці ў Маскве ці ў Санкт-Пецярбурзе на Кінчава або Шаўчука. Хадзілі не толькі заўсёднікі, але й начутыя аб ім госці горада. І таму другарадная рэстарацыя станавілася ўпоравень з першакласнай. Заробак, што меў тут музыка, быў для сям'і прыемным — каму ж не спатрэбяцца большыя грошы, асабліва калі жонка працуе інжынеркаю ў маленькай канторцы й зарабляе сто сорак у месяц, а дзяцей трое, старэйшы сын плача па новых джынсах і "Шарпу", дачка пачынае хадзіць на дыскатэкі і ўжываць касметыку, а малодшы вечна хварэе. Але каму спадабаецца муж і татка, які год пры годзе, праз усё жыццё, не бывае вечарамі дома і вяртаецца дахаты апоўначы, часта падпіты. Першыя гады ён прыходзіў вельмі позна і п'яны ці не штодня, бо налівалі, і цяжка, а то й нельга было адмовіцца, і налівалася самімі музыкамі, каб лягчэй было граць, каб лягчэй было вытрымаць кабацкія тлум і бязглуздзіцу: музыкі, хоць і ў п'яным шынку, былі ўсё ж музыкамі, людзьмі так ці інакш больш інтэлігентнымі за сярэдняга наведніка, не кажучы ўжо пра заўсёднікаў. Праз гэта жонцы трэба было прайсці. Потым Джані пачаў піць усё радзей і меней, бо баяўся прапасці й шкадаваў жонку, потым яшчэ радзей і меней, бо жонка перастала ўжо нават і грошай хацець — больш за ўсё ёй хацелася простага сямейнага цяпла, звычайнага ўтулу, — і Джані баяўся страціць музыку. Баяўся перастаць быць артыстам. Нарэшце жонка не вытрымала й пачала плакаць штоноч, угаворваючы, просячы, молячы Джані кінуць граць, а потым ужо й настойваючы на гэтым. Джані супраціўляўся, сам у сваю чаргу ўгаворваў, прасіў і маліў, аднак ён быў чалавек мяккі й добры — і таму здаўся. Пакінуў гурт і знік з вачэй наведнікаў рэстарацыі. Спачатку яму было цёпла й радасна дома, хоць смутак па музыцы не пакінуў яго ні на дзень, але неўзабаве ўсмешка, заўсёдная ўсмешка Джані сышла з ягонага твару. Ён захварэў. Начамі ўставаў, ішоў на кухню й гадзінамі слухаў у навушніках музыку — цяпер у модзе былі нябожчык Фрэдзі Мэркюры й Крыс Ры, і жонка не магла ўжо глядзець на іхнія партрэты ў галавах сямейнага ложка. Потым ён дастаў касету з відэакліпамі раўналеткі свайго Пола Макартні й вечарамі пракручваў яе па некалькі разоў запар, утаропіўшыся ў маладжавы твар шчаслівчыка. А потым пачаў піць, як у маладыя гады — уразнос. Ён зразумеў, што не быць артыстам — для яго азначае смерць. Смерць, дайшло да яго, гэта неабавязкова тады, калі ляжыш у труне — смерць можа быць і тады, калі нібыта й жывеш, і разам з тым і не жывеш зусім, бо тое, што маеш, зусім не жыццё для цябе. "Я памёр увосень дзевяноста першага" — задуменна сказаў ён сам сабе ўголас, і жонка пачула гэта. Увосень дзевяноста першага ён пайшоў з гурта. Жонка вельмі перажывала за яго й збіралася ўжо прапанаваць яму вярнуцца ў рэстарацыю. Аднак пачаў мяняцца час, панесліся ўверх цэны, і з'явілася магчымасць зарабляць грошы, каб не ўзвыць з адчаю ў барацьбе з гэтымі цэнамі. Джані пайшоў у камерцыю. Спачатку грошы радавалі яго, адцягвалі памяць ад музыкі, але праз нейкі час, вельмі хутка ён пераканаўся, што піць яму даводзіцца цяпер не менш, а яшчэ больш: каб не налажыць на сябе рукі. Твар ягоны стаў зусім змрочны. Калі Джані яшчэ слясарыў на заводзе, дык хоць нешта знаходзіў у працы, але цяпер жыццё дзеля адных толькі грошай стала яму зусім непатрэбнае. Я п'ю, бо не хачу павесіцца, прызнаўся ён сябру, а грошай мне цяпер і на сям'ю і на пітво аж занадта хапае. Прайшоў яшчэ нейкі час, і жонка, усё сама зразумеўшы, прапанавала яму вярнуцца ў гурт. І вось Джані зноў усміхаецца ў рэстарацыі — і не весела, і не сумна, а неяк засяроджана, сам з сабою, сам-насам з музыкай, бо ўжо й не ведае ён, дзе ён сам, а дзе музыка, ці, можа, музыка стала ўжо ім, а ён сам — музыкай?.. Пра апошняе ён асабліва баіцца думаць. Музыка для яго — не проста святое. Яна для яго — храм, на цвінтары якога ён стаіць і ў які ніколі не зможа ўступіць. "Я артыст", — зноў кажа ўвогуле негаваркі Джані. Ён адно музыкай і ўмее размаўляць. Гэта разумеюць толькі самыя праніклівыя й тонкія наведнікі. (Для бальшыні ён тут дзівак, экспанат. Выкапень). Гэта разумее ягоная жонка, што сядзіць цяпер у рэстарацыі ці не штовечар — дзеці ўжо дарослыя — і пазірае на свайго мужа, якога адна яна кліча па імені, імені, на якое даўно ўжо ўсе забыліся. (Дый ці ж было калі-небудзь у яго, Джані, якое іншае імя?) У паглядзе яе — і любоў, і смутак. Мала хто тут ведае, што абаяльная, не дужа вясёлая, але й не залішне маркотная жанчына за столікам у кутку — жонка артыста.



*Калаж У. СКРЫГАНАВА*

**рыла цуд" і задала тон гэтым неадназначным тэатральным спатканням і, як мне здаецца, яшчэ зведае вялікі розгалас: такой бясспрэчна вартай работы ў такой традыцыйнай, вядомай, здавалася б, даўно выпрацаванай манеры мінскі глядач даўно не бачыў. Хацелася б спадзявацца, што найлепшыя спектаклі яшчэ наперадзе: з паказу ў паказ гэтая работа робіцца больш цікавай. Ад У. Улашчанкі (капітан Келер) і Т. Жданавай (пакаёўка Вінэй) да адметнага дуэта Р. Астрадзінавай (Ані) і В. Кавалеравай (Элен) усе выканаўцы дасягаюць суладдзя сапраўднага ансамбля.**

— Дадамо, што ТЮГ паспяхова пазбываецца... абыякавага стаўлення да самога сябе. Здаецца, трупа на ўздыме, здаецца, правільная творчая палітыка кіраўнікоў дае тэатру такую неабходную пэўнасць, адметна дакляруе перспектывы... Прынамсі, на фоне "Снежнай каралевы" ды "Пунсовай кветачкі" купалаўцаў (спектаклі распачалі ці не па дваццатым сваім сезоне) работы ТЮГа і ўражваюць свежасцю і вабяць мінскую дзятву. Я б адзначыў і тое, што паболела на тюгаўскіх спектаклях і бацькоў, а гэта ўвогуле пераацаніць цяжка...

**— Такім чынам, сезон мінулы для ТЮГа быў выніковы і акрэсліў ягоныя перспектывы. Ды ТЮГ, здаецца, у адзіноце...**

— Большасць прэм'ер нашых вядучых тэатраў (абапіраюся на сведчанне статыстыкі ды крытыкі) вялікай цікавасці гледачоў не выклікала. Цікава адзначыць, што бальшыня прэм'ер коласаўцаў, купалаўцаў, горкаўцаў прыпала на малыя сцэны. Бракуе сродкаў насяліць вялікія? Або... не адных толькі сродкаў? Складаная і драматычная сітуацыя ў абласных і гарадскіх тэатрах Беларусі. Яны літаральна змагаюцца за права на існаванне. Сярод самых стабільных — Гарадзенскі і Гомельскі абласныя драматычныя тэатры. Гомельскі дуэт В. Рагоўскай (дырэктар) і У. Караткевіча (мастацкі кіраўнік) ужо апрацаваў плённыя гастролі ў Мінску, праўда, да шырокага гледача не трапілі пазнейшыя прэм'еры — арыгінальны рэпертуар для юных гледачоў. Дарэчы, У. Караткевіч цяпер, бадай, адзіны мастацкі кіраўнік тэатра (за выключэннем, натуральна, М. Абрамава), які не саромеецца і не лянуецца працаваць для дзяцей. Праўда, Г. Мушперт, запрошаны на такую самую пасаду ў Гродзенскі тэатр, таксама пачаў з дзіцячага спектакля, дакладней, з пераносу "Дацкай гісторыі" (інсцэніроўка А. Шапіры паводле казкі Г.-Х. Андэрсана "Брыдкае качаня") з рыжскай сцэны на гродзенскую. Між іншым, "ЛіМ" ужо пісаў пра шмат якія са згаданых спектакляў, а мне хацелася б дадаць хіба пра самае прыкрае ў гродзенскіх варунках: трупе істотна бракуе моладзі. Перадусім. Ну, а па-другое, шэраг "добра зробленых п'ес" на падмостках ужо не вырашае творчых праблем тэатра: Н. Сайманам, І. Губачам, Ж. Брыкерам, М. Ласегам, Н. Ковардам і падобным да іх няможна сілкавацца працягла.

**— А што можна сказаць пра навастворана — Мінскі абласны драматычны тэатр у Маладзечне?**

— 30 студзеня 1993 года ён распачаў сваю дзейнасць спектаклем "Зямля" паводле паэм "Новая зямля" і "Сымон-музыка" Якуба Коласа (рэжысёр — М. Мацкевіч, мастацкі кіраўнік трупы). Гэты спектакль можна разглядаць як своеасаблівую мастацкую праграму тэатра. Яе працяг — спектаклі "Час, Сымоне, час" паводле "Раскіданага гнязда" Янкі Купалы, "Адцуранне" А. Дударава, якія крэсляць адзіны шлях развіцця грамадства — праз адраджэнне духоўнасці, нацыянальнай самасвядомасці, гістарычнай памяці, культуры. На самым пачатку сваёй дзейнасці маладзечанская трупа арыентуецца пераважна на нацыянальную драматургію — як на класічную, так і на сучасную. Відавочна, аднак, што ёю тэатр не абмяжуецца, — хоць бы таму, што мусіць улічваць цікавасць да тэатральнага мастацтва самых розных гледачоў. З'яўленне спектакля "Непаразуменне" А. Камю — вынік менавіта падобнага ўліку. Але, здаецца, рэжысёр, дыпломнік Беларускай акадэміі мастацтваў А. Крывашэеў (мастацкі кіраўнік пастаноўкі — В. Раеўскі) памыліўся ў жанры пастаноўкі, распрацаваўшы яго як "псіхалагічны дэтэктыў": твор Камю нічога агульнага з класічным дэтэктывам або ўяўленнямі пра яго бальшыні гледачоў — не мае. Падзеі твора — не канкрэтныя, не рэалістычныя, яны выдаюць на глыбінныя, складаныя і супярэчлівыя з'явы або праявы чалавечай падсвядомасці. Існаванне ў спектаклі акцёраў — на ўзроўні тэксту, без асацыяцый, філасофскіх абагульненняў і да т.п. Між тым адзначу, што сярэдні ўзрост трупы — 25 гадоў — вымагае працы над складаным і супярэчлівым драматургічным матэрыялам, — перадусім каб сцвердзіцца ды ўдасканаліцца прафесійна. Да ўсяго з трупаю супрацоўнічаюць дасведчаныя рэжысёры і рэжысёры-педагогі (адчуваецца выгодная блізкасць да сталіцы): В. Раеўскі, А. Андросік, Р. Баравік, У. Забэла, сцэнограф У. Жданаў, кампазітар А. Залётнеў... Натуральна, перспектывы неблагія.

**— Пяцідзесяты сезон распачала сёлета трупа берасцейцаў. Летась абавязкі рэжысёра-лідэра ўсклаў на сябе спадар Еўдашэнка, — дасведчаны, добразычлівы і амаль з саракагадовым стажам работы менавіта на сцэне Брэста. Трупа мае, здаецца, аднаго з самых дзейсных і спраўных дырэктараў — А. Казака. Аб'яднаўшыся, рэжысёр з дырэктарам дамагаюцца перадусім аднаго: вяртання трупы ў адрамантаваны тэатральны будынак...**

— Прынамсі, брэсцкія будаўнікі абяцаюць... чарговы раз. Але цікавая прэм'ера мінулага сезона ў Брэсцкім тэатры — пастаноўка С. Еўдашэнкі камедыі Л. Разумоўскай "Пад адным дахам"; вырашаны матэрыял у жанры меладрамы і ад дня прэм'еры займеў сталы глядацкі поспех. У цэнтры ўвагі — лёс адной сям'і з трох жанчын: бабулі, маці ды ўнучкі. Можна сабе ўявіць, як зацікаўлена працуюць актрысы на чале... з самім рэжысёрам: С. Еўдашэнка выконвае ў спектаклі ролю вядучага, свайго роду апавядальніка. А трупа, тым не менш, абнаўляецца з цяжкасцю. Асабліва бракуе моладзі да трыццаці пяці гадоў. Найперш — сярод мужчынскага складу.

**— Старыя праблемы. Пэўна, няма тэатра, які б іх не зазнаў. Зрэшты, маладосць мінае хутка, — яе хапае якраз на адзін вялікі тэатральны рамонт...**

— Напрыканцы мінулага сезона двум вялікім тэатральным рамонтам выпала-такі ўшанаваць сваім заканчэннем яшчэ нескончаную тэатральную маладосць: трупы Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра Беларусі ды Муніцыпальнага тэатра "Дзе-Я?". Рэжысёры Віталь Катавіцкі і Мікалай Трухан абвяшчалі мастацкія праграмы... Сярод самых маладых — і Слонімскі беларускі драматычны тэатр, які дагэтуль прытрымліваецца абвешчанага, мовім так, вандроўна-перасоўнага ладу творчага існавання: яму падпарадкуецца кожная рэжысёрская прапанова. Вандроўнасць-перасоўнасць, дарэчы, вызначае і ўмовы працы драматычнага тэатра "Верасень" у Мазыры — тамтэйшая трупа таксама большую частку сезона гастралюе па родным Палессі, шмат — па раёнах, што пацярпелі ад Чарнобыля. Трэба неяк дапамагаць ёй — дапамагаць, беручы пад увагу скрутныя ўмовы яе штодзённага існавання, а таксама традыцыі выканання, магчымасці і да т. п. Толькі... як? Чым? Вызначальнай мусіла б зрабіцца мера далікатнасці ў прапанове магчымай дапамогі. Бо на акцёрскую долю верасьнёўцаў надта ўжо шчыльна апошнім часам выпадаюць прыкрасці...

**— Адметна, калі тэатр бярэ ўдзел у прэстыжным міжнародным тэатральным фестывалі, — я маю на ўвазе торуньскі "Кантакт-94", але, магчыма, міжнародныя фестывальныя мітрэнгі не даліся б тэатру ў знакі, калі б айчынныя фэсты дапамаглі выпрацаваць сякі-такі імунітэт. Параўноўваць сябе з іншымі — неабходна тэатрам. Усім без выключэння.**

— Мінулы сезон не быў бедны на спатканні ды параўнанні: першы міжнародны фестываль монаспектакляў "Я", "Славянскія тэатральныя сустрэчы" ў Гомелі, "Маладзечанская сакавіца"... І ўзровень мастацкіх запатрабаванняў на гэтых імпрэзах быў высокі, праўда, не заўжды аднолькава высокі. Асабліва непакоіць стан сучаснай драматургіі і рэжысуры: ад іх перадусім залежыць лёс тэатральнага мастацтва. І — нейкая дзіўная наша ізаляванасць. Нават ужо не ад цэлага свету. Адно ад аднаго. Мы па-ранейшаму не ведаем, што робіцца ў тэатрах, — у друк зазвычай патрапляюць толькі паведамленні аб прэм'ерах. Па-ранейшаму не прасачыць, як і куды кіруюцца акцёры: з тэатра ў тэатр, з горада ў горад, ад рэжысёра, за рэжысёрам, па рэжысёра... Магчыма, часткова нашу інфармацыйную нішчымніцу звядзе на нішто дзяржаўна-грамадская мастацкая рада па тэатральным мастацтве пры Міністэрстве культуры і друку: ёй будуць нададзены адпаведныя правы, на яе будуць ускладзены пэўныя абавязкі па каардынацыі ўсёй дзяржаўнай палітыкі ў сферы сцэнічнага мастацтва, правядзенні пэўнай рэпертуарнай і арганізацыйна-кадравай лініі, фінансаванні дзяржзаказаў... Магчыма. Бо трэба неадкладна выпрацоўваць іншае: агульную канцэпцыю развіцця прафесійнага мастацтва, падтрымкі і існавання культуры ў Беларусі. Трэба вызначаць і вылучаць прафесійную вертыкаль, — не ў званнях, вядома, а ў ступенях авалодання прафесіяй. Няхай бы, зыходзячы з гэтай дзяржаўнай канцэпцыі, мастацкая рада бралася б распрацоўваць дзяржаўную праграму падтрымкі і развіцця тэатральнага мастацтва ў так званы пераходны перыяд. Тэатры, што наўпрост звязаны з чарнобыльскай зонай, перш-наперш трэба падтрымаць фінансава і юрыдычна. Прынята ўжо і рашэнне стварыць Вышэйшую школу дзеячаў тэатральнага мастацтва для падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі галоўных спецыялістаў у сферы тэатральнай культуры. А ў Беларускім інстытуце праблем культуры ўтвараецца лабараторыя прафесійнага мастацтва, у складзе якой, пэўна, варта як мага хутчэй арганізаваць і сектар мастацтва тэатральнага.

**— Адказ, бадай, вычэрпны. Спытацца засталося толькі пра адно: І Усебеларуская тэатральная канферэнцыя, варты набытак леташняга сезона з яе тэмай праблем нацыянальна-культурнага адраджэння, будзе мець працяг?**

— Магчыма, у чацвёртым квартале наступнага года. Да першага сакавіка ўжо будзе распрацавана яе праграма.

*Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА, Галіны МАСКАЛЁВАЙ, Уладзіміра ВІТЧАНКІ*

# "ЗОРКА ЎСПАМІНАЎ, ЗОРКА НАТХНЕННЯ..."

## ЧАТЫРЫ ВЕЧАРЫ З МІНУЛАГА СТАГОДДЗЯ



Фартуна падарыла гэтым людзям па сутнасці спрыяльны ўклад жыцця. Яны не ведалі, што такое дудукаць па тэлефоне, глядзець у "скрынку", марнаваць час — амаль роўны няспешнай праходцы дадому — на чаканне транспарту. Ім не давялося спасцігаць "стыль зносін" у відэасалонах — іхнім конам было сцвярджэнне стылю творчых і чалавечых стасункаў у салонах старасвецкіх: сапраўдных, артыстычных.

Яны жылі ў стагоддзі, якое снобы ганяць за вульгарызацыю нораваў, манер ды густаў, за пралетарызацыю свядомасці, дэфармаванне ідэалаў. Лічаць увогуле не самым цікавым у чарадзе стагоддзяў. А тым не менш, яго лепшыя дзеці, у тым ліку й землякі нашы, паспявалі набываць і спраўна рэалізоўваць (у навуцы, у мастацтве ці якім іншым чынам) рознабаковыя веды, вандраваць па свеце, мацаваць грамадзянскі дух, знаходзіць сяброў, змагацца за годнасць Айчыны...

З імі, "знанымі незнаёмцамі", нашымі духоўнымі папярэднікамі, адбылася, нарэшце, першая сур'ёзная сустрэча. Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла", наладзіўшы свой чарговы фестываль, прадставіла ў яго праграмах музыку 19 стагоддзя, прынамсі, забытыя на радзіме творы, звязаныя з беларускім рамантызмам.

Дарэчы, які ўжо раз выклікае ў мяне захапленне "Беларуская Капэла". Яе мастацкі кіраўнік В. Скорабагатаў і дырэктар Я. Паплаўскі чацвёрты год запар здзіўляюць амаль неверагодным спалучэннем у сваёй працы летуценнай фантазіі, творчай неспатоленасці, умеркаванай канкрэтнасці планаў, арганізацыйнай стабільнасці. Уяўлена — задумана — зроблена! І зробленае так або інакш грунтуецца на адкрыццях. Вось і сёлетняе чатырохдзённае падарожжа ў мінулае стагоддзе знаменавалася адкрыццямі.

Успомніце артыкул, які напярэдадні фестывалю надрукавала ў "ЛіМе" рэдактар "Беларускай Капэлы" Н. Собалева: колькі там было сенсацыйнага для чытачоў, якія не маюць звычкі корпацца ў энцыклапедыях (а такіх жа большасць)! Нішто сабе факты: патомны музыкант, мінчук Ф. Міладоўскі ды птушка высокага палёту з вясковага гнязда Н. Орда мелі еўрапейскую вядомасць, жыццё кожнага было багатае на падзеі, сустрэчы: Шапэн, Ліст, Мендэльсон... А калі гэткія знакамітыя імёны неаднаразова і даволі ярка фігуруюць у біяграфіях нашых таленавітых землякоў, дык можна казаць пра іх своеасаблівае плённае дачыненне да гісторыі музычнай культуры Беларусі...

Увогуле ж, гісторыя беларускага музычнага рамантызму — рамантызму (даруйце няўклюдны каламбур) была пазбаўлена. Бо міждзяржаўныя, як цяпер сказалі б, палітычныя разборкі пакінулі глыбокі варварскі след на ўсім жыцці нашага краю. Гэта вядома. І пасля росквіту прыдворных капэл, праз якія нашы мястэчкі мелі кшталт еўрапейскіх гарадоў, настаў доўгі заняпад. Музычная культура на радзіме сяк-так ліпела, а людзі мастацтва па розных прычынах апыньваліся за межамі Бацькаўшчыны (шляхі тагачаснай беларускай музыкі так або іначай пралягалі праз Варшаву, Санкт-Пецярбург, Парыж, Берлін...). З ласкі старарэжымных гісторыкаў доўгі час яны прабылі як бы ў эміграцыі за межамі культурнай скарбніцы Беларусі. Ім адмаўлялі ў беларускім "падданстве", прыпісваючы выключна да "спадчыннай нерухомасці" суседніх народаў.

Новая генерацыя айчынных даследчыкаў і музыкантаў-выканаўцаў вярнула гэтыя постаці ў атмасферу Роднага Дома, "кіслародам" якой сілкавалася полымя творчасці М. К. Агінскага, В. Казлоўскага, С. Манюшкі, Н. Орды... Старонкі іхняй творчасці, творчасці іхніх сучаснікаў — чыннікаў беларускай, польскай, расійскай культуры — вярнуліся да нас, жывым гучаннем дапоўніўшы і газетныя нататкі, і пазнаваўчы тэкст раскошна выкананага (па-беларуску ды па-англійску, з ілюстрацыямі) фестывальнага буклета, і ўступныя каментарыі да канцэртных праграм, зробленыя вучоным і перакладчыкам У. Мархелем.

Увесь першы вечар іграў наш бліскучы піяніст І. Алоўнікаў. Монапраграма, своеасаблівая анталогія фартэпіяннай музыкі Н. Орды, выконвалася без антракту, толькі ўсплёскі авацый давалі артысту хвіліны для адпачынку. Ва ўтульнай, амаль салоннай абстаноўцы таго канцэрта мяне апанавала спакуслівая ілюзія, нібыта пасля доўгіх гадоў эміграцыі Напалеон Орда сабраў сяброў Мінскага музычнага таварыства, да арганізацыі якога меў актыўнае дачыненне, і пачаў іграць...

Паланезы: грымкі Мі-бемоль мажорны, лірычны Сі мінорны, натхнёны прыгожай старой песенькай трыумфальны Фа мажорны, зіхоткі, звонкі паланез "Паўночная зорка"... Між іншым, шапэнаўскі почырк "чытаўся" толькі ў адным з іх, памяці Шапэна прысвечаным. А потым — два гэткія розныя накцюрны: адзін лёгкі, як подых начнога паветра, аздоблены сентыментальнымі гармоніямі; другі — як пачуццёвая баркарола. Гучалі вальсы, мазуркі, гарэзлівая полька ды высакародная серэнада. "Бліскучы вальс" ігралі ў чатыры рукі: да І. Алоўнікава далучылася маладая піяністка Н. Пазнякова. Віртуозная, прыгожая, шляхетная праграма!

Пасля канцэрта ў галаве круцілася толькі адно, бязадраснае і таму недарэчнае, пытанне: "А чаму мы дасюль былі пазбаўленыя гэтай музыкі?"

Каб жа толькі гэтай...

Зрэшты, пытанні такога кшталту — анахранізм, больш дарэчы сёння радасныя воклічы. Колькі малазнаёмай ці зусім невядомай музыкі давялося пачуць за чатыры фестывальныя дні! А галоўнае — колькі розных выканаўцаў прытулілася да яе: з цікаўнасцю, з прафесійнай сумленнасцю, з усхваляванаю душою! Вакалісты, скрыпачы, аркестравыя музыканты, піяністы, у тым ліку — фартэпіянныя дуэты... Шкада, не гучала гітара — сапраўдная гераіня айчыннага рамантызму, пястушка сямейнага музіцыравання, салонных канцэртаў. Не пыталася пра тое, але бяруся меркаваць, што ў сваіх далейшых планах "Беларуская Капэла" не абміне і старонкі беларускага музычнага рамантызму, звязаныя з гітарай, сола і ў ансамблях, у тым ліку з вакалам.

Аднак я адхілілася ад галоўнай нагоды для сёлетніх радасных воклічаў: выканаўцы! Камерныя канцэрты фестывалю, якія па традыцыі трымаліся на трох "кітах": В. Скорабагатаў, Г. Каржанеўская, І. Алоўнікаў, — сабралі цэлае сузор'е і маладых імёнаў, у большасці ўжо ганараваных высакапробнымі лаўрамі міжнародных конкурсаў. Скрыпачкі А. Герасімёнак ды Ю. Стэфановіч, піяністкі Н. Пазнякова, Г. Гетманава, К. Кузьменка... Спевакі Т. Цыбульская ды Р. Палішчук, арганіст У. Неўдах... Яны, маладыя, ужо не змогуць разлучыцца з "добра забытай" музыкай, яна сталася часцінкай іхняй душы, закранула пачуцці, пранікла ў свядомасць. Дай Бог захаваць ім сённяшнюю выканаўчую шчырасць і захопленасць, каб

*(Працяг на стар. 14)*

*Біяграфічныя звесткі пра Пётру Сыча адрывістыя і не зусім поўныя. Нарадзіўся ён у 1912 годзе на Вілейшчыне. Дэбютаваў у друку з літаратурнымі творамі ў дваццацігадовым узросце. Пісаў вершы і прозу. Як і кожны беларускі літаратар, трапіў у поле ўвагі органаў НКВД і ў 1939-м быў арыштаваны. На два гады трапіў у лагер пад Варкутой. Вырвацца на волю і пакінуць сталінскую імперыю дапамагло ўступленне ў польскую армію генерала Андэрса.*

*Пётра Сыч браў удзел у баях з гітлераўцамі на Апенінах, у тым ліку і пад Монтэ Касіна, дзе палеглі тысячы нашых суайчыннікаў. Пасля вайны жыў у Нямеччыне, рэдагаваў гумарыстычны часопіс "Шарсьцень".*

*Аўтабіяграфічнае апавяданне "Каляды на чужыне", якое прапануецца ўвазе чытачоў, узята са зборніка "Ля чужых берагоў" (Мюнхен, 1955).*

***Уладзімір АРЛОЎ***

# КАЛЯДЫ НА ЧУЖЫНЕ

Пётра СЫЧ

Карспляц раве істэрычна какафоніяй неонаў. Натоўпы людзей таўкуцца ў карытах вуліц, месячы і мяшаючы з балотам безупынку падаючы снег. Кажны спяшаецца ўсхваляваны, аб'ючаны пакункамі. Праліхаючыся цераз натоўп і бачачы, што людзі нясуць ялінкі і якіясь бліскучыя фінціклюшкі для ўпрыгожвання гэных дрэўцаў, я толькі цяпер прыпомніў, што набліжаюцца Калядныя Святы. І ўспомніўшы, прыпомніў, што калісь і я перажываў гэта — тады, калі меў свой дом, сям'ю і... Каляды...

Калі ж гэта ўсё было? Так даўно, што аж здаецца няпраўда...

14 гадоў... У дачыненні да вечнасці гэта дробязь, капля ў акіяне, зярнё пяску на Сахары, але ў жыцці чалавека... Тым больш што гэтае жыццё толькі адно...

Дзікі боль журбы запусціў вострыя кіпці ў сэрца. Пачуўся такі адзінокі, як бы заблудзіўся ў бязмежнай тайзе. Так я зажадаў вырвацца з гэтага раскрычанага, чужога натоўпу.

Быццам бы як калісьці ў нас: белы рой сняжынак круціцца ў паветры і ціхенька засыпае лабірынты дарожак у Englischer Garten. Тут зімой, ды яшчэ ў змярканне можна блудзіць цэлыя гадзіны, не спатыкаючы чалавека і не чуючы гарадскога шуму. І тут я ў цішыні ды пустцы парку правандраваў думкамі па ўсіх дарогах чатырнаццацігадовай бяздомнай валацугі. На экране памяці, як жывыя, замітусіліся вобразы краін, людзей, здарэнняў, перажыванняў...

## 1939. ВІЛЕЙСКАЯ ТУРМА

Першы раз у жыцці дзень 24 снежня прайшоў спакойна: ніхто не загадваў цёрці маку, бегчы купляць цукар ці насіць дровы.

Нашая 21 камера — свайго роду дэмакратычная рэспубліка: усе ўнутраныя праблемы паддаюцца пад агульную дыскусію і вырашаюцца бальшынёй галасоў. Сяння бальшыня пастанавіла ляжаць цэлы дзень на нарах. Дык і ляжым спрасаваныя, як селядцы ў бочцы. Пачынаюцца гутаркі на кулінарныя тэмы: якія стравы прыгатаўляліся на Куццю, колькі дзён мусіў вісець застрэлены заяц, каб "скрушэў", якім соусам паліваць смажаную качку і г. д. Наогул кулінарныя тэмы — найпапулярнейшыя сярод галодных вязняў.

Самаабман няшкодны, — але не вельмі прыемны...

Цераз завешаныя дзераўлянымі кашамі вокны зімовы дзень цадзіў мутнае святло, якое чуць-чуць забельвала згушчаны смурод камеры. Хвіліны паўзлі, як спаралізаваная чарапаха або вошы за каўнярам. Напаследак недзе згас яшчэ адзін для нас неперажыты дзень. На калідоры загрукаталі катлы, і сорак восем чалавек хутка сарваліся з бярлогаў. Апалонік мутнай цёплай вады, у якой плаваюць кускі мерзлай бручкі — вячэра. Хто болей ашчадны, выцягвае з-пад сенніка закручаны ў анучку ці хустачку кусок чорнага, як зямля, хлеба, які заашчадзіў з ранняга пайка на вячэру. Куцця!

Вячэра прайшла без слова. Углядаючыся ў твары сувязняў, бачу глыбокі цень суму ва ўпадзінах вачэй, з грудзей вырываецца цяжкі ўздых. Не адзін слязьмі дасаліў нясолены суп...

Пасля вячэры старшыня камеры запрапанаваў:

— А цяпер, сябры, давайце зробім паляванне. Заўсёды на Куццю паны мелі звычай паляваць з нагонкай.

Гэта штодзённая, усімі ўстаноўленая, усіх абавязуючая "паўгадзіна гігіены". Кажны сцягвае з сябе рызманы, імітуючыя бялізну, і пачынаецца паляванне. На недахоп звярыны наракаць не можна, і кажны паляўнічы мае "на раскладзе" шматлікія трафеі.

У камеру ўбягае стражнік з паперкай у руках:

— Хто на літару "ы"?

— На "ы"? Хіба на "і"...

— Усё роўна, хай на "і". Хто?

— Іваніцкі. Інглёт...

Стражнік круціць галавой, напаследак пакрывае нас густым матам і выходзіць. Цераз некалькі хвілін вяртаецца і, паказваючы на мяне:

— Цябе як завуць?

Кажу сваё прозвішча.

— Дык што ж ты, такі ды гэтакі, не адклікаешся, калі я пытаю?

— Бо ты пытаеш на "ы", а я на "с", а толькі другая літара "ы"...

— Тут табе не акадэмія, дык і без навуковых дысертацыяў! Давай на дапрос!

Да гэтага часу я хадзіў на следства даволі ахвотна. Мой следчы быў чалавек зусім культурны, мацюжыў у меру, не біў ніколі ды даваў курыць добрыя папяросы. Здаецца, штодзень бы хадзіў — толькі дзеля гэных папяросаў.

Таму, хуценька нацягнуўшы на плечы вашывую сарочку, я быў гатоў і, паводле рэгуляміну, залажыўшы рукі назад, чакаў ля дзвярэй. На калідоры стражнік перадаў мяне байцу. Той зарэцытаваў мне добра ведамую формулу перадасцярогі, якую мы, крыху перакручваючы, травеставалі: "Крок улева — правакацыя, крок управа — агітацыя, крок уперад — буду лічыць пабегам і ўжыву аружжа. Давай уперад!"

Пярвей я быў апытаваны ў следчым аддзеле турмы, цяпер жа баец загадаў мне ісці за вароты. Тры месяцы не быў я на дварэ, дык цяпер, халіўшы свежага марознага паветра — упіўся. Сярдзіты мароз кінуўся на мяне, быццам ліхі звер. Паветра было, як сярэбраны звон, снег скрыпеў пад нагамі, а гэты скрып будзіў сваё рэха пад глыбокім, набітым зорамі, скляпеннем. На вуліцы не было жывога чалавека, толькі ў дамох вялікія, незакратаваныя вокны былі поўныя святла, у іх прастакутніках прасоўваліся цені, можа, накрывалі стол на куццю... Вунь там збоку знаёмы дом і ў вакне мітусіцца сцень — можа, Лена...

Улучаем з байцом шпарчэйшы ход, бо мароз, як сабака, скубець за цела. Вось і будынак следчай установы.

Следчы мой сяння не ў настроі. З месца глушыць мяне абшырным лексіконам адборных расейскіх кампліментаў. За мной становіцца нейкі тып, выгляд якога ўзбуджае фізічную пашану: здаравенны дзяціна з даўжэзнымі рукамі, закончанымі кулакамі, кажны з добрую булку хлеба. Свіныя вочкі міргаюць па-свінаму абыякава. Лёгка было дадумацца, што з інтэлігенцыяй хлапец нічога не меў супольнага і не прысутнічаў, каб мяне дапытваць. Яшчэ раз глянуў я на яго кулакі, і мае гадунцы за каўнярам захадзілі неспакойна. Папрабаваў я падкупіць салодкай усмешкай гэнага гарылу, але твар яго быў быццам у каменнага Сфінкса, толькі вочкі міргалі па-свінаму. "Гэта балдавешка адкоціць мне сяння Куццю. Хіба на бублік сатрэць...", прыйшла мне ў галаву невясёлая думка.

Але не было часу аддавацца медытацыям, бо следчы Максіменка гнуў аднаго мацюка за другім. Нашая канверсацыя была выняткова кароткая: ён быў зашмат цікавы, а я ніяк не мог гэнай цікавасці задаволіць.

Яшчэ ён раз праехаўся ўздоўж і ўпоперак па матушцы-Расеі, што я пакорна выслухаў. Пасля ён зашыпеў:

— Дык не скажаш? Чуў, Іван?!

Пакуль я здолеў дадумацца, што цяпер наступіць, — Іван вухнуў...

Цэлы рой зорак — толькі не Бэтлеемскіх — быццам бы камары мак затаўклі, замітусіўся ў маіх вачох, і я класічным кролем сплыў з крэсла на падлогу. Адылі не доўга там аставаўся, бо Іван падняў мяне, як шчанюка, за каўнер і пасадзіў на крэсла.

— Ну, можа, цяпер будзеш толкам гаварыць?—паінфармаваўся Максіменка.

Я хацеў штосьці адказаць, але, замест слоў, з рота вылецелі два зубы.

— Гэта пачатак, уверцюра, а канцэрт я яшчэ табе дам! Іван, адаслаць яго ў камеру!

"Як на ўверцюру, зусім хлёстка! — думаў я, выходзячы з кабінета, папіханы ўслужным Іванам. — О, гадзіны! І гэта ў ноч паяднання й прабачэння!.. Вот табе et in terram hominibus bonem voluntatis..."

Баец, які мяне чакаў, глянуўшы на мой франтон, ухмыльнуўся:

— Здарава! Ну нічога, жыць будзеш, толькі...

Далейшая частка сентэнцыі была менш пацяшаючая.

Канвойны ведаў, што ў такіх выпадках рабіць: завёў мяне ў нейкую каморку і пасадзіў над чэрапам, каб адхаркаўся.

Па дарозе ў турму неяк мяне дзіўна сцягвала на правы бок, быццам параплаў наладаваны нераўнамерна на адзін борт.

"Нічога, наступны раз атрымаю на другі бок і будзе раўнавага", — пацяшаў я сябе. Бо чым іншым мог пацяшацца?

## 1940. БАЛЬНІЦА Ў ЛАГЕРЫ ЛЯ ВАРКУТЫ

Паўтарагадзінны дзень прасунуўся незаўважна і, не прынёсшы ніякіх уражанняў, распоўзся ў сутоннях тайгі. Каляровыя істужкі палярнай зары замітусіліся на небе. Мароз даціскаў 40 градусаў.

У зале, дзе ляжалі цяжэй хворыя нашы людзі, сабраліся мы ўсе, каторыя маглі хадзіць, каб супольна правесці гэты ўрачысты вечар. Хтось прывалок з двара ялінку. І дзіва! Кажны з нас меў найменшы тэрмін 8 гадоў лагераў, але без ценю шаблону ці позы жадалі адзін другому, каб наступную Куццю праводзіў на волі. Хаця ў свеце нічога на гэта не паказвала, у нас была нейкая вера, што нешта мусіць здарыцца, перамяніцца. Смерць, якая люта кінулася на нас з першых дзён прыезду ў лагер, прытупіла сваю касу. Мы пачалі акліматызоўвацца і адчулі, што перажывём... Пасля паўголасам спявалі калядныя песні. Настрой быў паважны, але не журботны.

Расейцы, якія не мелі ўяўлення аб гэтых святах, глядзелі на нас здзіўленыя, але ніводзін не закпіў. Толькі Белой, заядлы камуніст, які адыёзна ненавідзеў усё заходняе, гаркнуў:

— Паразіты! Сухапутныя піраты! Буржуйскія забабоны адкалываюць!

Але іншыя аблажылі яго дваццаціпавярховым матам, і ён дэманстрацыйна адвярнуўся да сцяны.

З найбольшым здзіўленнем глядзела на нас дзяжурная сястра Паліна. Хаця яна не разумела зместу, яе субтэльная жаночая душа інтуіцыйна вычула, што тут дзеецца нешта нештодзённае. Калі мы пачалі разыходзіцца, яна затрымала мяне на калідоры:

— Вы сумныя?

— Вельмі! Цяжка мне перажываць гэту ноч тут і аднаму...

Я больш прыкінуўся, чым было ўзапраўды.

— Вы не можаце ўпадаць у дэпрэсію. Хадзіце, памажыце мне мераць хворым тэмпературу і разносіць лякарствы, а пасля раскажыце мне пра сянняшнюю ноч...

* * *

— Так! — сказала яна недзе пасля поўначы. — Гэта было штось чароўнае. Хай нават легенда, міф, але прыгожы, якога другога я не чула. Праметэеўскаму да яго далёка...

* * *

Золак дня застаў нас яшчэ ў дзяжурцы. Жыццё і моладасць — тут таксама мусілі сказаць сваё слова і жадаць сваіх правоў...

Так у жудасным савецкім лагеры, пад марозным, раззіхацелым палярнымі зорамі, небам завязалася гарачая, шчырая прыязь, якая мела пераможна прайсці ўсе цяжкія пробы нявольнага жыцця, зрасіць балючай слязой дэкрэт, які прыносіў мне волю, і застацца чароўным успамінам на ўсе часы...

## 1941. КАЛГАС ПАД САМАРКАНДАМ (УЗБЕКІСТАН)

На каго Гера, на таго і ўсякая халера...

Не памагло нам, што мы з першым сняжком на Варкуце, 28 верасня, з "амністыйнымі" дэкрэтамі ў кішані, уцяклі з паўночнай тайгі аж да падножжа Паміра — зіма дагнала нас і там. 20 градусаў марозу ва Узбекістане — нешта не штодзённае. Холад упіваецца ў нашы, скурай абцягнутыя, косці, вострымі клыкамі, а лагерныя ватаваныя рызманы — раздолле вошаў, не ратуюць ад яго зубоў.

Савецкая ўлада адаслала нас з Ташкента на работы ў калгасах: там маем чакаць на прыезд польскай арміі з Тоцкага і Бузулука, якую перакідаюць ва Узбекістан. Узбекі далі нам маленькі хляўчук на памяшканне. Некалькі ахапкаў саломы — цэлае ўмэбляванне. Са сцяны вынялі адну цагліну, каб упусціць крыху святла і паветра.

Пакуль была работа ў полі і мы хадзілі збіраць хлапок ды капаць бульбу, калгас даваў на рыла па 600 грамаў хлеба, бульбы ды крыху заправаў, як солі, цыбулі, лою і іншых. Апрача таго, узбек, у якога хтось працаваў, таксама часамі падкармліваў... Але цяпер, як работы не стала, атрымоўваем толькі 300 грамаў джугары, якую мусім малоць у жорнах, і з гэтага кажны з нас два разы ў дзень варыць сабе зацірку. Гэта ўсё. Скардзіліся старшыні калгаса, што галадаем, але той адказаў нам савецкай прыказкай ва ўзбецкім жаргоне: "Ты не работаць, ты мало кушаць"...

Прабавалі ляпіць у праснакі бітае шкло, ды падкідаць козам ці авечкам. Некалькі здохла. Мелі баль, бо ўзбекі дохлага або хворага не ядуць. Але як гэта пачало паўтарацца зачаста — схамянуліся і загразілі нам, што нас аддадуць у НКВД. Упалявалі пару сабак. Цяжка праходзілі цераз глытаўку, але голад не цётка. Зноў паўсталі авантуры, бо ўзбек, бадай, лягчэй сцярпеў бы, каб яму забілі жонку, чымсьці сабаку ці каня.

Цяпер нас 20 чалавек сядзіць сціснутых у цесным хлеўчуку, кішкі гаркаюць, зубы ляскочуць, злосць спаганяем на вошах. Вошы — стыхія! Няведама, скуль плывуць, як паводка — амаль заліваюць.

Я хаджу маляваць узбекам партрэты, за што яны плацяць емінай. Некаторыя плятуць нашы беларускія кошыкі — таксама за праснакі. Гэтак маем змогу ўтрымоўваць некалькі слабых і хворых.

Паміж нас, жыхароў узбецкага хлява, недалёка ад гроба Тамерлана — цэлая мазаіка тыпаў, шырокі маштаб класаў і сацыяльных паходжанняў: былыя абшарнікі, афіцэры, паліцыянты, урадоўцы, прафесары. Але найбольш сялян — на шчасце, бо гэта найболей спрытны, зарадны і вытрымалы элемент. Узбекі аж цмокаюць з захаплення, бачачы беларускага дзядзьку пры рабоце: сякера ці чэкмен, молат ці каса — змяняецца ў пярун у яго руках. Нашы кошыкі з лазы ўзбекі бачылі першы раз, увесь калгас сышоўся дзівіцца, як на цуд. Цяпер заказаў — хоць разарвіся, толькі лазы не хапае.

Нягледзячы на розніцу паходжанняў, сярод нас няма антаганізмаў ні ненавісці. Савецкі бізун — ідэальны штрыхулец, зраўняў усіх. Панская вош ссала мужыка, мужыцкая даіла пана, а цераз вошаў кроў мяшалася...

На куццю я скончыў маляваць узбеку партрэт яго сына, каторы цяпер на вайне. Да двух медалёў, якія былі на фатаграфіі, я з лёгкай рукі, ад сябе, дамаляваў яшчэ пяць. Убачыўшы такога героя, старыя аж прыселі з захаплення. Абдзялілі мяне праснакамі, лоем, кішмішам, што ледзь дамоў давалок. Была багатая куцця, чуць не баль. У лоі смажылі праснакі, замест агіднай зацірки з джугары, варылі кампот з сушанага уруку і кішмішу. Рыгор, дзядзька з-пад Баранавіч, добра прадаў кошыкі і нават прынёс кубак мёду. Адразу пайшоў да хворага Б., калісь собсніка трох маёнткаў, і адліў яму палавіну нектару, кажучы лагодна:

*(Працяг на стар. 14)*

# КАЛІСЬЦІ Й НАШ БОГ ПРАСПІЦЦА

**Стары, сівы, паклычаны сабака, кульгаючы на ўсе чатыры лапы і не маючы нават сіл памахаць на развітанне аблезлым хвастом, адпаўзае, нарэшце, убок, саступаючы месца ў няспынным карагодзе нябесных сімвалаў шчасліваму парсючку, які з цягам часу абяцае адгадавацца ў ладнага чорнага кабана. Год 1994-ы канчаецца, і вось-вось пад прывітальную тэлепрамову нашага прэзідэнта мы ўздымем келіх шампанскага, вітаючы год новы, 1995-ы.**

**Аднак па спракавечнай завядзёнцы перш, чым глянуць наперад, варта азірнуцца. Які быў год, што мы пражылі? Якія пакінуў ён сляды ў душах і ў гісторыі? Што прынёс і *што* адабраў? Што абяцаў і ў чым расчараваў?**

***Прасцей* за ўсё было б, карыстаючыся шырокай вядомасцю ўсходніх календароў, сказаць: жыццё ў год Сабакі было сабачае, і нічога не паказвае на тое, што ў год Кабана (Свінні) яно не будзе свінячым. Прасцей, але ці аб'ектыўна?**

**Так, сапраўды, палёгкі Сабака нам яўна не прынёс. Заробкі, якія ў снежні 1993-га ў сярэднім складалі сорак долараў, скаціліся да пятнаццаці-дваццаці. Цэны растуць не штокварталька і не штомесячна, а літаральна штодзённа. Прыватызацыя з хуткасцю чарапахі ажыццяўляецца па нейкіх афіцыйных законах, абмінаючы адзіны закон — закон чалавечай *логікі*. Эканамічнымі рэформамі і не пахне, затое расце наша запазычанасць Расіі за энерганосьбіты пад покахкі пра эканамічныя саюзы ды калектыўныя бяспекі. Адраджэнне застаецца ідэяй апантаных, а народ тым часам так і не знайшоў прыдатнай замены *рэлігіі* марксізму ў сваёй свядомасці. Беларуская мова па-ранейшаму спрабуе давесці, што яна не горшая за іншыя і нават дзяржаўная, але дзяржаўныя мужы аніяк не жадаюць усвядоміць сваёй перад ёй адказнасці.**

**Сумна? Вельмі сумна!**

**Але было б невыносна сумна, калі б не вы, дарагія чытачы!**

**"Газету вашую чытаю ўжо некалькі гадоў. За апошні час яна стала амаль перадавой у падтрымцы беларускага нацыянальнага, культурнага і эканамічнага адраджэння" (К. Акула, Таронта).**

**"На першай старонцы "ЛіМа" напісана, што гэта газета творчай інтэлігенцыі Беларусі. Можна было б напісаць, што гэта газета і тых, хто хоча звацца беларусам, хто жадае стаць культурным чалавекам. Бо гэта вельмі культурная і вельмі карысная газета" (Р. Лявонцьеў, Чэлябінск).**

**"З вялікім задавальненнем і цікавасцю чытаю любімую газету "ЛіМ" (С. Данільчык, Мінск).**

**Гэта — допісы апошніх дзён. Ці варта тлумачыць, *што кожны* *такі ліст*, кожнае такое слова — бальзам на душу журналіста, крылы для палёту, штуршок да пошуку, найлепшая ўзнагарода. Дзякуй вам!**

**Мы ганарымся сваім чытачом. Такога чытача, як у "ЛіМа", не мае, пэўна, ні адна газета ў краіне. Паўтары тысячы допісаў прынеслі паштавікі на лімаўскі адрас за гэты год. Вазьміце наш тыраж і падзяліце на гэтую *лічбу*: кожны сёмы наш чытач знайшоў час і магчымасць непасрэдна паўдзельнічаць у стварэнні "ЛіМа". Бо не толькі верш, артыкул, рэцэнзія, нарыс ці нататка становяцца цаглінкамі ў падмурку нумара, які рыхтуецца да выхаду ў свет, але і вашы заўвагі, парады, проста цёплыя словы, якія ствараюць нам настрой, зараджаюць энергіяй, дадаюць натхнення і... як той казаў, "за работу, товарищи!"**

**Такая актыўнасць нашых чытачоў сведчыць пра многае — і пра ўзровень нашых карэспандэнтаў, і пра тую еднасць, непарыўную сувязь, якая ўзнікае між намі, лімаўцамі, і вамі, таксама, па сутнасці, *лімаўцамі*. Мы — аднадумцы. Мы разам робім агульную справу.**

**А талакой, яшчэ продкі зразумелі, працаваць *лягчэй*. І *лягчэй* дабіцца выніку, дасягнуць поспеху. Разам, грамадой, мы дойдзем да Беларусі.**

**А наконт чорных кабаноў... Ёсць такая прымаўка: "Бог не папусціць, свіння не з'есць". Іншы раз здаецца, што Творца адвярнуўся ад нашай зямлі. Аднак мы — ёсць, і мы — разам. А значыць, *як у другой прымаўцы кажуць*, "Калісьці й наш Бог праспіцца".**

**І тады свінні нічога не здолеюць зрабіць ні з намі, ні з нашай краінай...**

Марыя ГІЛЕВІЧ,
*рэдактар аддзела пісьмаў і грамадскай думкі*

# КАЛЯДЫ НА ЧУЖЫНЕ

*(Пачатак на стар. 13)*

— Еш, панок, можа, калісь, як буду ісці цераз твае лугі, ты мне палкай адудзячышся...

— Думаю, — сказаў я, — што калі Бог дазволіць нам вярнуцца дамоў, будзеце жыць па-братэрску і вашы антаганізмы застануцца тут з вашывымі фуфайкамі. Нашы непраходныя Рубіконы сацыяльных розніцаў цяпер вошы пералаўзлі...

— Дай Божа! — згадзіўся без пераканання Рыгор. — Але не ведаю, не ведаю...

Пан, збянтэжаны, маўчаў...

— Ну, браточкі, — дадаў Рыгор — пры гэтым Святым Вечары пажадаем сабе, каб Бог змілаваўся над намі, — ды капянуў нас і мы выкаціліся з гэтага раю ў якоесь капіталістычнае пекла...

Мароз шчэрыў зубы на дварэ.

Паводле савецкай прэсы, пад Масквой замярзала нямецкая *армія*. Мы ж не *ведалі*: цешыцца з гэтага ці сумаваць...

## 1942. ІРАКСКАЯ ПУСТЫНЯ ПАД КАНАКІНАМ

Як вокам сягнуць — палавая пустыня й палавое неба, так што цяжка разрозніць, дзе канчаецца адно, а пачынаецца другое. Уся пустыня пакрытая палаткамі, паміж якімі ўдзень валочыцца нуда, ноччу выюць шакалы, ну і часценька свярдзёлкі гамсінаў верцяць дзіркі ў небе. Не раз можна бачыць дзесяткі слупоў пяску, якія, прабягаючы цераз пустыню, зносяць і комкаюць усё, што ім трапляецца па *дарозе, пакуль вецер не* пакрышыць іх на туманы дробненькага пылу, які праціскаецца ўсюды. Нездарма ў Курдыстане ёсць няпісанае права, што калі гамсін дзьмець безупынна пяць дзён, а курд зарэжа сваю жонку — не адказвае за свой праступак. Гэта нешта жуткае, што рвець не толькі ліны палатак, але й нервы.

Добры Бог зліітаваўся над намі і вывеў нас з савецкага раю ў Бабілонскую пустыню. У Каспійскім порце Паглеві засталася стыхія вошаў, голаду й страху. Як у калейдаскопе замігцелі цудоўныя ў сваёй дзікасці перскія горы, блакітны Тэгеран, а цяпер ужо месяцамі трывае спракудлівая стыхія пустыннай нуды. Легендарны Усход, аб якім мроілася, начытаўшыся казак Шэхерэзады, прынёс расчараванне. Казкавы Багдад — бруд, смурод і бедната. Праўда, недзе за высокімі мурамі існуе роскаш і сунега зацішных гарэмаў, але туды гяўрам няма ўваходу. Ды і ў Багдад рэдка ёсць нагода паехаць. На штодзень астаюцца: шакалы, скарпіёны, фалангі, чорныя ўдавы, гадзіны, гамсіны ды міражы (фатамарганы або "фатаміграны") — міражы зроку й летуценняў...

Усё ж нешта добры Кон даў нам пацеху. Гэта — арак. Хаця прыскам смаліць глытаўку, адылі, сцёбнуўшы тройчы, чалавек ажыўляецца і, у залежнасці ад тэмпераменту, выяўляе гэтае ажыўленне: адныя апляўшацца да крыві, іншыя ўзварушваюцца да слёз.

На Куццю палаткі прыбралі пальмавымі лапкамі!. Далёка ім да нашых свежых, ядраных, пахучых ялінак!

Ежы — хоць распеража́ся, араку — хоць заліся!

Камандзіры абходзяць палаткі звязаў. Сыплюцца ўрачыстыя, баявыя прамовы, што паб'ём, пераможам, дойдзем, пяройдзем... Жаўнеры, знуджаныя гэтай рыторыкай, чакаюць, калі афіцэры пойдуць у свае палаткі і можна будзе распачаць штурм на арак. Урэшце пачалася агульная папойка, крыху калідуючая з дэмакратыяй, але згодная з вайсковай дысцыплінай: афіцэры асобна п'юць віскі і джын, жаўнеры ў сваім гэце хлышчуць арак.

Да мяне звярнуўся стары падафіцэр — шэф:

— Калі ласка, пойдзем да мяне ў палатку. *Я зрабіў нашую праўдзівую беларускую куц*цю, з макам. І шчупачка таксама прыпёк...

* * *

Слёзы мяшаліся з добрым вінам, радасць волі — з сумам і турботамі аб тых, што асталіся там, за Каспійскім морам...

З палатак пачалі вырывацца песні. Спачатку калядныя й даволі стройныя, калі ж скончыўся запас калядак, спевакі перайшлі на патрыятычны рэпертуар, які змяніўся ў дрындушкі. Паволі, у меру даліванага араку, спеў пераходзіў у выццё, якому заўторылі *шакалы. Да іх далучыліся галодныя* сабакі з недалёкай курдыйскай вёскі.

Далёка за поўнач па пустыні разлягалася нястройнае выццё людзей і звяроў, якое адбівалася ад нізкага, валавянага скляпення неба.

## 1943. БЭТЛЕЕМ, БАЗЫЛІКА НАРАДЖЭННЯ

Дык гэта тут!.. Дзесяткі пар дзіўна мокрых вачэй уліплі ў сярэбраную зорку і ўбогія яслі ля яе ў падзямеллі Базылікі. Узварушэн*не сціскае горла*. Гэта тут — 1943 гады таму нарадзіўся Той, Каму не знайшлося месца ні ў хаце, ні ў карчме, ні ў сэрцах людзей... Найвышэйшы Маестат сышоў найніжэй, бо аж у пастырскі хлеў, каб на зямлю прынесці супакой і валадарства Божае...

Тут так ціха, што чуецца біццё сэрцаў. А недзе там, далёка, над светам шалее бура вайны, мільёны людзей гінуць у лагерах, кацэтах, крэматорыях, у пунях жыўцом гараць падпаленыя старыя, жанчыны, дзеці... У імя чаго?

Як цяжка слабым людскім розумам зразумець *глыбіню Божай мудрасці* і справядлівасці!..

* * *

Базыліка Нараджэння знаходзіцца ў руках праваслаўных манахаў, якія пры ўваходзе бяруць даволі салоную аплату за ўступ ад кажнага паломніка. Каб не абражаць рэлігійных пачуццяў розных веравызнанняў, у капліцы Нараджэння забаронена спяваць калядныя песні, за выняткам... польскіх. Гэтая дзіўная традыцыя бярэ свой пачатак ад 1885 года, калі адна група польскіх паломнікаў, цераз недагляд адміністрацыі не папярэджаная аб забароне, заспявала калядныя песні. Так паўстаў прэцэдэнт, які стаўся правам. Разумеецца, палякі не абняхайваюць выкарыстоўваць гэтае права.

Не ведаю, як спявалі Нованароджанаму пастушкі, калі за зоркай Бэтлеемскай прыбеглі ў стайню, але нашыя калядкі маглі толькі Дзіцятка спужаць, бо ўсе галёкалі з такім энтузіязмам, што аж, здавалася, святыня дрыжэла, а перапалоханыя манахі збегліся ў падзямелле. У дадатак у цеснай капліцы даволі непрыемна панесла перагарам араку: не адзін ваяка на вячэры ў Ерусаліме або па дарозе ў Бэтлеем заглянуў глыбей у пляшку, каб гадней ушанаваць святое месца. Аднак цяпер усе глыбока ўзварушаныя, калі кажны падае на калені й цалуе сярэбраную зорку перад яслямі.

* * *

Ужо на двары Эдзя Пракаповіч, да якога ніякімі спосабамі не прышчэплівалася вайсковая дысцыпліна, пацягнуў мяне канфідэнцыяльна за рукаў:

— Не мог гэта маленькі Ісус нарадзіцца ў нас, на Беларусі? Мы — народ лагодны, Яго б дастойна ўшанавалі і не ўкрыжавалі б, як гэныя нехрысці...

— Дык хоць сяння аддай Яму належную пашану і не ўпіся. З кішэні Эдзявага плашча цікава вытыркнула галоўку бутэлька.

— Як бы гэта выглядала, каб я, шавец, з шавецкай сям'і, не выпіў у такі ўрачысты вечар? Гэта была б Боская абраза!..

Як можна было дыскутаваць з гэнай шавецкай філасофіяй?

* * *

— Спадар *лейтэнант*, а нашто там, у капліцы Нараджэння, тырчыць узброены жыдоўскі паліцыянт ды яшчэ ў шапцы?

— Ён пільнуе, каб хтось не ўкраў зоркі з-пад ясляў або каб манахі розных веравызнанняў не біліся між сабой, што пярвей часта здаралася.

— І то ў такім святым месцы! О, злыдні! Ды й наагул, яны тут і з святасцяў зрабілі кірмаш! — абураюцца жаўнеры.

— Браткі! — крыкнуў нехта баявейшы. — Давайце пойдзем ды выцягнем за вушы вон гэнага паліцыянта ад Ісусавых ясляў!

Ахвотнікаў *пабіцца* за веру знайшлося шмат. Каб ратаваць сітуацыю, я мусіў даць востры загад маршыраваць да вазоў.

* * *

Цёмная, душная ноч навісла над Ерусалімам. Ужо далёка па поўначы выходжу на балкон гатэля. У Ерусаліме абавязвае "блакаўт" і ўва ўсім горадзе ані святла, але на яснейшым фоне неба справа чарнее вежа Давіда, насупраць жа высіцца Галгофа. Далей налева, над далінай Юзафата, узносіцца Гара Распусты, дзе калісьці стаяў палац 300 жонак і *наложніцаў* Саламона і алтар Бааля. Пада мной спіць стары Ерусалім. Там, між беднымі, лепленымі з гліны хаткамі ўецца Крыжовая Дарога.

Растрэсеныя нервы не хочуць успакоіцца. На чорным небе ночы фантазія рысуе вобразы мінулага: выразна чую, як натоўп вые: "Вараву! Вараву!", а Пілат усцяж мые рукі і знуджаным голасам кажа: Ecce Homo! Лагодны голас Вучыцеля глушыць выццё натоўпу. Набожны спеў крыжаносцаў мяшаецца з крыкам забіваных імі жанчын і дзяцей. Над Галгофай з'явілася рыцарская постаць Годфрыда дэ Буёна і расплылася ў пустцы...

Pater, dimitted illis...

Было мне сумна й жутка...

Далёка, за Маабскімі горамі, на небе разліваліся аблезлыя фарбы зары. Са стромкага мінарэта, быццам ракета, сарваўся зычны голас муэдзіна, *заклікаючы славіць* Алаха. Ерусалім будзіўся, штодзённае жыццё выбягала з муравейніка. І я выбягаю з гатэлю. Так хочацца мне прайсціся вузкай "Via Dollorossa" — насустрач Чалавеку з крыжам...

* * *

У садзе Гэфсімані — бальзам супакою. Шэрыя, старэнькія аліўкі, якія, паводле сказу, памятаюць Хрыста, быццам бы абмёрлі — не скрануць галінкамі. Паміж імі сівенькі францішканін чуць рушыцца, паліваючы градкі.

Перада мной маленькая даліна Юзафата, далей Залатыя Вароты Старога Ерусаліма. Усё тут: кажнае дрэва й камень былі сведкамі найвышэйшае хвалы і найніжэйшага паніжэння Хрыста, і ўсё, здаецца, аб гэтым памятае.

Усё — за выняткам людзей...

## 1944. НА ФРОНЦЕ Ў ІТАЛІІ

Стыхійны град волава загнаў нас у хату заможнага італьянскага кантадзіна. Тыповы ў Італіі дом селяніна: на нізе свіран, пуня і хлеў, на паверху памяшканні. Цяпер палавіна страхі і паверху разбітыя артылерыйскімі гранатамі, ля хаты відаць некалькі ям, вырваных лятунскімі бомбамі. Хатка не мела ніякага стратэгічнага значэння і бачна, што ангельскі лятак выпаражніўся над ёй проста дзеля жарту, каб *напужаць беднага* кантадзіна і ягоных бамбінаў. Яшчэ калі мы падыходзілі да хаты, было чутна рыканне кароў, калі ж ускочылі ў дом і каровы пачулі людзей — рыканне падвоілася і сталася бязупынным.

Язэп, саракапяцігадовы дзядзька з Глыбоччыны, гаспадар ад дзесяткаў пакаленняў, узлез да мяне на паверх, скуль я аглядаў ваколіцу:

— Дазвольце мне дагледзець каровак. Гаспадары паўцякалі, і бедная жывёлінка ўжо некалькі дзён мучыцца.

Атрымаўшы *дазвол*, дзядзька *шпарка* ўзяўся за гаспадарку, і мне знізу чуліся яго *бойкія загады*:

— Васіль, ускубі сена. Пане Савіцкі, прынясі пару ахапкаў саломы. О, паршывы пасташутнік! Так бедную жывёлу абняхаіў!

Расставіўшы забяспечанні, я заглянуў у хлеў: у паасобных загародках тузаліся прывязаныя тры палавыя каровы і дзве цялушкі. Ля іх увіхаўся ўвесь звяз: адны насілі сена, другія падсцілалі свежую салому, хтось прывалок вядро пшаніцы. Падцёлкі ўспакоіліся, але каровы тузаліся далей.

Язэп недзе пабег і вярнуўся, несучы тры вядры.

— Выдаіць іх, браткі, трэба. Хто ўмее даіць кароў?

Знайшліся і такія спецыялісты, але ў гэтай аперацыі прыняў удзел увесь звяз, бо калі адны даілі, іншыя казычылі кароў за вушамі, іншыя дзяржалі хвасты, каб не сцябалі дояк.

На гэту акцыю ўлез заступнік камандзіра дывізіі. Я скочыў рапартаваць аб сітуацыі, але гэны стары ваяка мякка ўсміхнуўся, загледзеўшыся на мітусню жаўнераў каля жывёлы. Праўда, пасля, адазваўшы мяне ўбок, бурчэў, што звяз, заместа *ляжаць* на агнявых становішчах, доіць кароў, аднак яшчэ раз вярнуўся ў хлеў і сам пагладзіў па шыі адну з іх. Перад адыходам паведаміў нам, што наступленне затрымоўваецца на гэтай лініі, і мы можам тут на пару дзён загаспадарыцца. Гэта вестка выклікала шчырую радасць.

— Хлопцы! — сказаў палкоўнік, далей казычучы карову за вушамі. — Заўтра распачынаюцца калядныя святы, таму, пры нагодзе, што вас бачу, ужо сяння жадаю вам, каб Бог дазволіў да наступных Калядаў вярнуцца цэлымі і здаровымі дамоў, да вашых...

Бадзёры адказ зашумеў у хлеве. Мы тут жа віншавалі камандзіра з нагоды атрымання генеральскай рангі. Як бы на запярэчанне нашага добрага настрою, ля сцяны з трэскам разарвалася серыя небельвэрфараў, аж параненая хатка парушылася неспакойна.

Адыходзячы, камандзір сказаў жартаўліва:

— Ну, пільнуйце вашай гаспадаркі, ды гэтай жывёле крыўды не зрабіце. Тым больш, што, чую, і куры пад страхой ёсць. За цэласць вы адказны— звярнуўся да шэфа.

— Калі б было небяспечна, перавесці кароў на тылы, на хутар пад гарой.

Развітваючыся са мной, генерал сказаў:

— На наступны год вярнуцца дамоў... Як гэта гучыць дзіўна і...

— І не рэальна... — дакончыў я.

— Ну, трымайся!

Паціснуў мне руку і пачаў сыходзіць з крутога абрыву ў вузкую далінку між гор. Адышоўшы некалькі крокаў, адвярнуўся і кінуў:

— А людзей ашчаджай...

* * *

Я разглянуўся: навокал рассцілалася прыгожа зімовая панарама. Ззаду высіліся Апеніны, пераход якіх каштаваў нам столькі поту і крыві. Спераду горы тэрасамі ўзгоркаў ападалі і пераходзілі ў даліну, якая цягнулася далёка на поўнач. Дзесь там за лініяй кругагляду Балон'я — мэта цяперашняй кампаніі. Паўкіламетра перада мной, у даліне над рэчкай Сэн'ё — мястэчка Рыолё дзі Бан'ё. Там сядзяць немцы.

Нічым не спыненая, крылатая думка палялела цераз нямецкія пазіцыі на паўночны ўсход — дамоў... Італьянскія ўзгоркі здаваліся неяк дзіўна падобныя да нашых беларускіх. Напружаныя болем нервы абвіслі, воля змянілася дэпрэсіяй. У мутнай перспектыве агульнай сітуацыі на свеце, як зрок у гэтым чужым далеглядзе, губляліся сэнс ахвяр і высілкаў для гэтай чужой вайны. Астаткам сілы волі я сабраўся і павалокся да свайго звязу.

Там жаўнераў мучылі іншыя цяжкія праблемы: як і ўсё, гаспадарка давала шмат клопатаў, бо хаця кароў накармілі і выдаілі, яшчэ трэба было напаіць, а ў цэлым будынку ані кубка вады. Праўда, ля дому была студня з калаўротам, але да яе метраў дваццаць і зусім як на далані бачна немцам з мястэчка.

Язэп не мог супакоіцца: "Бедная жывёлінка мучаецца, ды й генерал загадаў дагледаць". Урэшце звяртаецца да мяне:

— Дазвольце папробаваць...

— Пакінь, яшчэ галавой наложаш. Неўзабаве сцямнее, тады нешта прыдумаем.

Але толькі я адышоўся ў другі канец дому, як затрашчэў нямецкі шпандаў, пасля забразгалі вёдры і ў хлеве грукнулі дзверы. Я ўскочыў у хлеў, а там Язэп з Савіцкім, засопшыся, абтрасаюцца ад снегу.

— Што, папробвалі?

— О, гады печаныя! — адказаў Язэп, падмацоўваючы праклён нецэнзуральнымі эпітэтамі ў расейскай версіі.

Палажэнне камплікавалася, бо каровы, убачыўшы вёдры, рваліся з ланцугоў, а жаўнеры сушылі галовы, як іх ратаваць. Да агульнай рады далучыліся ангельскія абсэрватары артылерыі, якія пасля нас прывалаклі сюды свае тэлефоны, ларнеты ды іншае прычындалле. Яны таксама зацікавіліся праблемай і пачалі краташь думніцамі. Раптам адзін малады падафіцэр крыкнуў: "Бойс, ай ноў, ай гэв э гут айдзія!" І пачаў выкладаць свой план. Хадзіла аб тое, што трэба скіраваць навалу палка артылерыі на нямецкія агнявыя становішчы, а ў часе гэтага ён скочыць з іншымі выцягнуць вады. Ангельцы любяць азарт, а яшчэ больш заклады. З месца пачалі закладацца: "ай бэч ю!", "ай донт тынк соў". Справа дайшла да іх капітана, які, крыху падумаўшы, буркнуў: "ол райт". Я паказаў яму месцы, скуль бачыў агонь нямецкіх шпандаваў, і ён пачаў прыстрэльвацца. Калі ж агонь быў на мэце, капітан даў знак быць гатовым. Цераз некалькі хвілін цэлая бура жалеза праляцела над намі і ўрэзалася ў нямецкія пазіцыі, за ёй другая, трэцяя. Як толькі першыя гранаты разарваліся, ангелец і двое нашых скочылі да студні.

Але, хаця навала артылерыі прыціснула і асляпіла нямецкія кулямёты, з-за ўзгоркаў з выццём мільёна чарцей вырвалася серыя небельвэрфараў. За першай пайшлі наступныя. Пекла закіпела ля хаты, і наша экспедыцыя ледзь з духам ускочыла ў хлеў. З чатырох вёдзер усё ж два былі поўныя. Ды што гэты было на пяць кароў?

Тут з помаччу прыйшоў малы Паўлючок, мой абсэрватар. Як абсэрватар у полі, быў ён слабенькі, затое ў вышукванні алкаголю ў паграбох — геніяльны. Дык і цяпер, халіўшы два парожнія вёдры, пабег недзе і цераз некалькі хвілін вярнуўся з поўнымі вёдрамі віна.

— У паграбе ёсць вялізныя тры бочкі. Гэта зусім маладое, слабенькае, можна паіць нават дзіця ў калысцы — не пашкодзіць...

Памыліўся, аднак, бо пашкодзіла: каровы ўпіліся і былі новыя прычыны да непакою.

У будучыні Язэп знайшоў выхад: як цямнела, раскладаў за ўзгоркам агеньчык і таліў снег, а пасля паіў кароў. Гаспадарцы ён аддаўся ўсёй душой. Выходзячы на становішчы, даваў камусь загад, як і што мае зрабіць. Калі хтось, несучы сена, растрос жменьку на калідоры, Язэп, збіраючы, бурчэў: "З цябе гаспадар, як... Дар Божы марнуеш"...

* * *

Назаўтра была Куцця. Шэрае неба нізка навісла над зямлёй і сеяла снегам. Рэдкі артылерыйскі агонь час ад часу раздзіраў зімовую вусціш. Апаўдні прыляцелі ангельскія самалёты і, няведама пашто, разбурылі некалькі бедных хатак на нямецкім баку.

Пад вечар, быццам на якісьці магічны загад, на ўсім фронце залягла цішыня. Позна прывезлі нам вячэру: кацёл змерзлай бульбы і бляшанку рому. Мул, які нёс біф, скаціўся ў протхлю. Ніхто не ўзяўся ні за ежу, ні за водку. Вольныя ад службы жаўнеры сядзелі ў хлеве і шэптам гутарылі, або лепш — мроілі. Я выйшаў абысці лініі забяспечанняў. Было ціха, аж звінела ў вушах. Раптам пачуўся стрэл небельвэрфара.

"Во гады! — падумаў я, прысядаючы ў роў. — Гэтакага свята не ўшануюць!"

Але заместа разарвацца з трэскам, гранаты шпокнулі, быццам хтось адчыніў бутэльку шампанскага: прапагандовыя ўлёткі. Немцы жадалі нам вясёлых святаў, але радзілі пераходзіць да іх.

Раптам я затрымаўся, не верачы вушам. У мястэчку немец пеў "Stille Nacht...". Малады, мяккі барытон дрыжэў сентыментальнай журбой. Можа, па каляровым Ціролі ці чароўным Райнляндзе...

Я стаяў ачараваны. Здавалася, што гэта пяе нехта блізкі, свой, што нічога не перашкаджае пайсці пацісьнуць яму руку і разысціся ў імя Таго, што радзіўся сяння, каб на свеце ўладалі любоў і супакой...

# ПАМЯЦІ ІГАРА ДЗЯДКОВА

Беларуская культура, беларускае краснае пісьменства страціла свайго сябра. Нас пакінуў Ігар Аляксандравіч Дзядкоў — выдатны рускі крытык, мысліцель, грамадскі дзеяч.

Усе, хто цікавіўся літаратурным працэсам, не маглі не звярнуць увагі на Ягоныя артыкулы, рэцэнзіі, кнігі. Узгадаваны на традыцыях класічнай рускай літаратуры, ён падыходзіў да творчасці сваіх равеснікаў, старэйшых і малодшых калег па цэху з высокімі меркамі праўдзівасці, гуманізму. Ён сам быў надзелены талентам пісьменніка: Ягоныя артыкулы і рэцэнзіі чытаюцца як мастацкая літаратура. Ягоны талент, эстэтычную і грамадзянскую пазіцыю заўважыў і вітаў вялікі паэт і праўдалюбец Аляксандр Трыфанавіч Твардоўскі. Ігар Аляксандравіч стаў аўтарам таго, "твардоўскага" "Нового мира".

Ён быў у ліку тых, хто пасля смерці Сталіна спадзяваўся на ўсталяванне ў савецкім грамадстве павагі да годнасці і правоў чалавека, чым выклікаў нянавісць уладаў. Трыццаць гадоў ён жыў у Кастраме — у ганаровай ссылцы, але не пайшоў на кампраміс з сумленнем, не стаў песняром брэжнеўска-андропаўскай рэакцыі.

Ён, чые карані на Смаленшчыне, выяўляў асаблівую цікавасць да беларускай літаратуры, беларускай гісторыі. Не толькі генетычная памяць, але і вернасць каштоўнасцям тае літаратуры, якая дала свету "Хаджы Мурата" і "Пасля балю", прывяла Яго да ўсведамлення, што Расія мае маральную віну перад Беларуссю. У дні распаду СССР ён разумеў і падзяляў нашу радасць з прычыны набыцця незалежнасці. Ен быў духоўна родны Алесю Адамовічу, Васілю Быкаву ды іншым нашым пісьменнікам, якія на першае месца ў літаратуры паставілі Праўду, Хараство, Гуманізм. У Яго была шырокая перапіска з беларускімі сябрамі. Творы нашых пісьменнікаў ён чытаў на мове арыгінала, а творчасці нашых літаратараў прысвяціў не адну старонку.

Няма Ігара Аляксандравіча Дзядкова, але з намі засталіся Ягоныя кнігі, у Ягоных беларускіх сяброў засталіся лісты, якія, трэба спадзявацца, будуць надрукаваныя. Напісанае ім — застаецца. Застаецца ўдзячная памяць.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

# "ЗОРКА ЎСПАМІНАЎ, ЗОРКА НАТХНЕННЯ..."

*(Пачатак на стар. 11)*

азарыць сваімі музычнымі адкрыццямі, сваім энтузіязмам і заўтрашніх вучняў, і слухачоў.

А цяперашнія слухачы ўдзячна прымалі такія розныя дары высокага творчага духу. Які ж артыстычны, лёгкі, "рэгтаймавы" почырк Ф. Міладоўскага ў фартэпіянных кантрадансах — ці гэта "вінаваты" артыстызм піяністкі К. Кузьменкі? Ах, якая пранікнёнасць вакальнага радка ў рамансах Ф. Міладоўскага на словы Я. Прусіноўскага (пераклад У. Мархеля) — асабліва вось тут: "Зорка ўспамінаў, зорка натхнення..." Ці гэта трапятлівы тэнар Р. Палішчука вымушае стаіць дыханне? Ну, проста чарнабаеўскі гумар выдае "п'янаватая мазурка" пад назваю "Песня старога гулякі" Ф. Міладоўскага! Ці мо гэта іграе магутны камедыйны талент В. Скарабагатава?..

Музыка Ю. Крашэўскага, С. Манюшкі, А. Абрамовіча, А. Концкага, Ц. Кюі, М. Шыманоўскай, цэлага сямейства Ельскіх і нават В. Дуніна-Марцінкевіча — якія адмысловыя культурныя ды чалавечыя повязі выявіліся праз канцэртныя праграмы фестывалю! Колькі карыснай інфармацыі для роздуму, якое "кіраўніцтва да дзеяння" выканаўцам, гісторыкам, культуролагам, педагогам-музыкантам...

І ўжо, канечне, цэлай дысертацыі вартая прэм'ера, якая вянчала сёлетні фестываль. Заключны канцэрт праходзіў у Вялікай зале сталічнай філармоніі. Усё было ў лепшых акадэмічных традыцыях: спачатку выступленне саліста з сімфанічным аркестрам, потым — прэм'ера манументальнага музычнага палатна.

Такім чынам, колькі слоў пра "спачатку". Наш знаны скрыпач Л. Гарэлік з упэўненасцю майстра прадставіў новую рэдакцыю твораў М. Ельскага: Другі скрыпічны канцэрт (аркестравая рэдакцыя А. Мдзівані, рэдакцыю скрыпічнай партыі ажыццявіў сам саліст), "Танец духаў" і "Танец смерці". Сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам маладога дырыжора М. Сінькевіча пачуваўся ў падпарадкаваным становішчы, што навяло некаторых слухачоў на песімістычныя думкі ў прадчуванні прэм'еры, але...

Але дырыжору ўдалося сканцэнтравацца, захапіць аркестр сваім выканаўчым намерам — і прэм'ера прайшла досыць годна. Гэта была музыка В. Казлоўскага да трагедыі У. Озерава "Фінгал" (адаптацыю музычнага тэксту зрабіў Л. Смялкоўскі). Яркая партытура, насычаная прыгожымі сола духавых, інструментальнымі дыялогамі, пругкімі маршавымі рытмамі, харавымі эпізодамі, у якіх асабліва вызначылася мужчынская група шырмаўскай капэлы, і маналогамі салістаў (П. Елісеева, Р. Палішчук), — партытура як "гукавая матэрыя" ўразіла слых. Але ён, слых, застаўся незадаволены і нават раздражнёны з-за таго, што амаль не ўлавіў, як цяпер кажуць, вербальнага зместу твора. Далятаў асобныя словы, прамоўленыя ў досыць дзіўным, нейкім "дапушкінскім" стылі. Мо варта было перакласці не толькі польскамоўныя тэксты, а і гэты? Ці хаця б зрабіць для праграмкі кароткі змест таго, пра што гэтак страсна, ну, амаль у духу грэцкай трагедыі, пяялі героі "Фінгала"?

Аднак я спадзяюся, што прэм'ерай выкананне гэтай незвычайнай для беларускага рамантызму партытуры не абмяжуецца. Ёсць нямала спосабаў прадоўжыць яе жыццё, наблізіць да сучаснага слухача — з дапамогай тэатралізацыі, аўдыёсродкаў...

Фестывальнае падарожжа ў мінулае стагоддзе скончылася, жыццё "музычных успамінаў" такога блізкага ад нас часу толькі пачынаецца. Інакш і не павінна быць. Інакш — дарослыя нашы сучаснікі дый тыя, хто гадуецца з імі побач, з часам зробяцца **старымі**, але — не **сталымі** людзьмі сваёй зямлі, так і не ўведаўшы толкам, як жыла яна да нас, якія зоркі ёй свяцілі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі
і Міністэрства культуры
і друку Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 11534.
Нумар падпісаны 29.12.1994 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

